30 верасня 2016 | № 37 (502)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




Ці будзе ў Расіі ліберальная апазіцыя?
стар. 9

4 НАВУЧАЦЦА, КАБ МАХЛЯВАЦЬ

Адкуль наогул узяўся гэты падыход: пайду навучуся прафесіі, каб больш удала красці?



7 СЕПАРАТЫСЦКІЯ ТРЭНДЫ НА ФОНЕ АДЗІНСТВА

Уся Германія 3 кастрычніка святкуе дзень адзінства. Фонам для святкавання стала мода на стварэнне рэгіянальных партый і праектаў



10 АЎТАР ПЕРШАГА БЕЛАРУСКАГА ГІМНУ

Твор Рагоўскага на словы Купалы доўга выкарыстоўваўся у беларускім асяроддзі як нацыянальны гімн

11 ПАЛЕССЕ ВАЧЫМА АРКАДЗЯ СМОЛІЧА

Аркадзя Смоліча паслядоўна цікавіў нацыянальны склад насельніцтва. Яму хацелася пераканацца, што праведзеныя ў Мінску межы паміж Беларуссю і Украінай былі слушнымі

# Акопваемся па ўсіх франтах

## Каб спрачацца з Расіяй, трэба мець жалезабетонныя аргументы і моцны надзейны тыл



Сяргей ПУЛЬША

Лукашэнка працягвае дасылаць сігналы кіраўніцтву Расійскай Федэрацыі. Ён дзейнічае ў простым, як граблі, стылі і не хавае сваіх намераў, мяркуючы, што сумленнасць — лепшая палітыка.

На сустрэчы з кіраўніком Дзяржаўнага мытнага камітэта Юрыем Сянько ён сказаў: «Я хачу мець поўную інфармацыю пра паслугі, якія мы аказваем Расійскай Федэрацыі (бо Расія толькі дзякуючы нашай мытні абараняе свае інтарэсы на заходнім напрамку, і абапіраецца яна на мытныя органы Беларусі), каб я быў у курсе справы для размовы з кіраўніцтвам Расійскай Федэрацыі». То бок, відавочнае жаданне «выставіць рахунак» партнёру па ЕАЭС, Мытным саюзе і Саюзнай дзяржаве.

Тактыка не новая. Але вельмі цікава, як яна працуе. Калі ў нас была «замарозка» адносінаў з Еўропай, беларускі кіраўнік шмаккроць паўтараў: Беларусь для Захаду — гэта «іхняе ўсё». Маўляў, толькі мы паставілі надзейную заслону мігрантам з Усходу і Сярэдняй Азіі. Толькі мы спыняем тут велізарны наркатрафік. І за гэта Еўропа нам вінная да скону: не тое што «санкцыі», нам за гэта прыплочваць трэба. Хоць памежнае супрацоўніцтва з ЕС ніколі не спынялася, а нават узмацнялася і развівалася. Напрыклад, мадэрнізацыя беларуска-літоўскай мяжы ў самыя крызісныя ў адносінах РБ і ЕС 2012–2014 гады пацягнула больш чым на 600 тысяч еўра, якія выдаткавалі еўрапейскія падаткаплатнікі. А на мадэрнізацыю польска-беларускай мяжы ў тыя ж гады сродкі далі швейцарцы (у польскіх грошах 51 мільён злотых).

Зараз з Еўропай мы нібыта сябруем, і нават не ўздымаем пытанне пра тысячы чачэнцаў, якія аселі ў Брэсце ў надзеі патрапіць у Польшчу. Але Лукашэнка вырашыў, што кепскі той пісталет, які не страляе ў абодва бакі. І, гледзячы па ўсім, вырашыў «пастраляць» у бок Расіі тымі ж аргументамі, якімі раней карыстаўся ў адносінах з ЕС. А паколькі з Еўропы ў Расію не бягуць ані мігранты, ані наркотыкі, ён знайшоў больш зручнага для Расіі ворага — санкцыйныя тавары.

Амаль адначасна з пачаткам антырасійскай рыторыкі інфармацыйнае агенцтва Мінабароны «Ваяр» распаўсюдзіла цікавую інфармацыю пра каманднa-штабныя вучэнні на палігоне «Лепельскі». На адным з яго этапаў адпрацоўваліся «пытанні арганізацыі вываду мірнага насельніцтва з умоўнага населенага пункта, занятага незаконнымі ўзброенымі фармаваннямі». Паводле задумы, незаконныя ўзброеныя фармаванні занялі ўмоўны населены пункт Жыліна з мэтай схілення мірнага насельніцтва на свой бок. Прадстаўнікі Узброеных Сіл і Міністэрства ўнутраных спраў павінны былі правесці перамовы аб вывадзе мірнага насельніцтва з небяспечнага перыметра, а ў выпадку нязгоды сепаратыстаў — правесці аперацыю па зачыстцы і блакаванні горада.

Нічога не нагадвае? Украінскія СМІ, якія гэтую падзею заўважылі, назвалі вучэнні «Славянск–2016».

Амаль адразу кіраўнік Беларусі сустрэўся з кіраўніком ваенна-прамысловага комплексу Сяргеем Гурулёвым. І таксама «амаль адразу» Гурулёў вылятае ў Кітай у складзе прэзідэнцкай дэлегацыі. Сам Лукашэнка накіроўваецца ў Кітай з 28 па 30 верасня. У ходзе візіту ён правёў перамовы са Старшынёй КНР Сі Цзіньпінам, прэм'ерам Дзяржаўнага савета КНР Лі Кэцянь, старшынёй Усекітайскага камітэта Народнага палітычнага кансультатыўнага савета Кітая Юй Чжэншэнам і старшынёй Пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Чжан Дэцзяном.





**Лукашэнка «мацуе абарону» напярэдадні размоваў з Расіяй**

Напярэдадні візіту эксперты аднагалосна сцвярджалі: Лукашэнка хоча ад Кітаю грошай. Зразумела, а хто ж іх не хоча? Праўда, Кітай дае не «жывыя» аблігацыі, а толькі «звязаныя» крэдыты пад канкрэтныя прыбытковыя інвестыцыйныя праекты. З гэтым у нас праблемы, як неаднаразова заўважаў сам Аляксандр Рыгоравіч.

Вось тут і спатрэбіўся Гурулёў, які на базе айчынных машын МЗКТ і кітайскіх ракетных тэхналогій стварыў гонар беларускага ВПК — РСЗА «Паланэз». Кажуць, на падыходзе другая мадыфікацыя гэтых машын. І не выключана, што ў ходзе вучэнняў пад Лепелем беларускае войска вызначылася, што можа, і што не можа даць беларускі ВПК для паўнавартаснага супраціву «гібрыднай пагрозе», і што мы можам атрымаць для гэтага ад Кітаю.

І, канешне ж, гэта пэўны «шчаўчок па носе» для Расіі. Маўляў, на Федэрацыі свет клінам не сышоўся. У нас і апроч РФ, ёсць магутны саюзнік, які, у выпадку чаго, дапаможа маральна і фінансава. Праўда, пра апошняе можна сцвярджаць, калі Лукашэнка прывязе з Паднябеснай пэўныя грошы, але, як ужо казалася, менавіта затым там быў Гурулёў. Дый цікава, што знайшоў у Кітаі знаны «ліберал» Кірыла Руды, які зараз там кіраўнік дыпмісіі...

Такім чынам, відавочна, што Лукашэнка «мацуе абарону» напярэдадні далейшых размоваў з кіраўніцтвам «асноўнага саюзніка і стратэгічнага партнёра». Прычым, мацуе яе «па ўсіх франтах» — і ў вайсковай галіне таксама. З чаго вынікае, што «разбор палётаў» будзе вельмі няпросты.

# Прызначана дата суда над Дзмітрыем Паліенкам

**Стала вядома, што суд над Дзмітрыем Паліенкам пачнецца 11 кастрычніка ў 10.00 у судзе Цэнтральнага раёна г. Мінска. Справу разглядаць будзе суддзя Валеры Есьман.**

Судзіць хлопца будуць па арт. 364 Крымінальнага кодэкса «Гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў», за які прадугледжана адказнасць у выглядзе арышту, абмежавання волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўлення волі на тэрмін да шасці гадоў. Акрамя гэтага, праваабаронцам з ліста ад Дзмітрыя Паліенкі стала вядома, што дадаткова яго абвінавачваюць па ч. 2 арт. 343 КК РБ «Выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару», па якім хлопцу пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад двух да чатырох гадоў.

Адносна непрапарцыйнасці затрымання Дзмітрыя Паліенкі падчас акцыі «Крытычная маса» і абвінавачання па арт. 364 праваабаронцамі была прынятая адпаведная заява. Што тычыцца новага абвінавачання і іх у сукупнасці — пазіцыя праваабаронцаў адносна статусу хлопца будзе сфармуляваная па выніках маніторынгу судовага працэсу над ім.

Між тым, крымінальны пераслед у дачыненні да Станіслава Канавалава быў спынены 24 жніўня, верагодна ён будзе выступаць у судзе ў якасці сведкі.

Нагадаем, жорсткае затрыманне веласіпедыстаў — удзельнікаў «Крытычнай масы» адбылося ўвечары 29 красавіка. У выніку грубых дзеянняў АМАП было затрымана 6 чалавек, якіх моцна збілі і адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна. Пазней чацвёра з затрыманых падпісалі пратаколы аб парушэнні правілаў дарожнага руху і аказанні супраціўлення супрацоўнікам органаў унутраных спраў і ДАІ, а супраць дваіх былі распачатыя крымінальныя справы.

Затрыманаму Дзмітрыю Паліенку вечарам 6 мая 2016 года прад'явілі абвінавачванні.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» праінфармаваў Працоўную групу па адвольных затрыманнях ААН пра справу раварыста.

Падтрымаць лістамі вязня можна па адрасе: 222160, Мінская вобласць, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22а, СІЗА-8, Паліенку Дзмітрыю Аляксандравічу.

**spring96.org**

# У Брэсце адкрылі помнік Алесю Чаркашыну

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Загінуламу ва Украіне Алесю Чаркашыну 27 верасня споўнілася б 34 гады. На адкрыцці помніка пад Брэстам гучалі яго спевы, прасякнутыя любоўю да Бога і Беларусі.**




Помнік быў усталяваны яшчэ 29 жніўня. Але адкрыццё было запланавана на дзень народзінаў Алеся. Помнік складаецца з трох пліт, якія адлюстроўваюць тое, чаму Алесь прысвяціў жыццё, — «Бог, Радзіма, Служэнне». На адной з пліт напісана «Бог з табой, ты не адзін». А на адваротным баку выбіты адзін з тэкстаў песень Чаркашына.

На адкрыццё помніка сабралася больш за пяцьдзясят чалавек. Сустаршыня БХД Павел Севярынец пераканаы, што гэтае месца — не проста могілкі: «Гэтае месца — месца сувязі зямлі і Неба. Гэтае месца — месца сувязі Беларусі і Украіны. І я перакананы, што сюды будуць вадзіць экскурсіі». Дарэчы, у кнізе, якая рыхтуецца да стагоддзя БХД і ў якой змешчаныя артыкулы пра людзей, што ахвяравалі сабой дзеля Беларусі, будзе артыкул і пра Алеся Чаркашына.

Бацькам Алеся Чаркашына цяжка было нешта казаць. Адзінае, што яны маглі прамовіць, — гэта словы падзякі ўсім тым, хто іх падтрымлівае. Дзякуючы валанцёрскай дапамозе, помнік Чаркашыну ўсталяваны і ў Кіеве.

Узялі слова на адкрыцці помніка і бацькі загінулага Міхаіла Жызнеўскага. Ніна Жызнеўская казала пра тое, што і Міхась, і Алесь не думалі ў той час пра бацькоў — яны ахвяравалі сабой дзеля іншых.

Пасля ўшанавання памяці Алеся Чаркашына на могілках імпрэза працягнулася ў памяшканні рэдакцыі «Брэсцкі кур'ер», дзе адбыўся адзіны ў Беларусі перадпрэм'ерны паказ дакументальнага фільма рэжысёра Антося Цялежнікава «Алесь Чаркашын. Не здавайся!». Прэм'ера фільма на тэлеканале «Белсат» адбудзецца 14 кастрычніка. Пасля паказу фільма Георгій Дзмітрук праспяваў тыя песні, якія калісьці з Алесем яны спявалі разам.

# Абаронім нашых дзяцей

Генадзь КЕСНЕР

**Новая арганізацыя з'явіцца ў Беларусі. Бацькі маладых нашых суайчыннікаў, што ваююць ва Украіне на баку ўкраінскай арміі, збіраюцца дамагацца вяртання правоў сваіх дзяцей, якіх сёння дзяржава гатова ўспрымаць як парушальнікаў крымінальнага заканадаўства.**

Каардынатар «Камітэта бацькоў добраахвотнікаў, якія ваююць ва Украіне» праваабаронца Наталля Гарачка-Басалыга распавяла, што сама была ў зоне Антытэрарыстычнай аперацыі, таму добра ведае сітуацыю. Яна гутарыла з маладымі беларусамі, што ваююць на баку ўкраінскай арміі, і таму ў камітэце будзе прадстаўляць інтарэсы бацькоў тых хлопцаў, імёны якіх пакуль па зразумелых прычынах не раскрываюцца.

«Камітэт трэба ствараць ужо з той прычыны, што хлопцы не могуць вярнуцца на радзіму, — кажа праваабаронца. — Яны не здзяйснялі нічога супрацьзаконнага, дзейнічалі ў адпаведнасці як з міжнароднымі законамі, так і нашымі, не пераступалі іх парог. Аднак у заканадаўства нядаўна былі ўведзены папраўкі, якія дазваляюць іх пераследаваць і не даюць ім магчымасці вярнуцца на радзіму. Мы будзем рабіць усё магчымае, каб адмяніць гэтыя папраўкі і дзейнічаць у адпаведнасці з Канстытуцыяй, Крымінальным кодэксам Беларусі ды іншымі заканадаўчымі актамі без залішніх паправак».

Прамоўца адзначыла, што ў бацькоў тых ваюючых ва Украіне хлопцаў, пра якіх стала вядома ўладам, былі праведзеныператрусы, канфіскавана маёмасць. «Таксама працягваецца ціск і пераслед сяброў гэтых маладзёнаў», — адзначыла Наталля Гарачка-Басалыга.

Сын Віктара Мельнікава Ян змагаецца на Украіне. Віктар Мельнікаў (а ён разам з Наталляй Шаўлюкевіч, маці ваяра пад пазыўным «Зубр», з'яўляецца сустаршынёй камітэта) кажа, што да ўдзелу ў гэтай арганізацыі яго падштурхнула «невыносная сітуацыя, калі па жаданні аднаго чалавека — Аляксандра Рыгоравіча — нахрапам мяняецца заканадаўства Рэспублікі Беларусь, а менавіта артыкул КК РБ аб наёмніцтве і тэрарызме». «Зараз гэты артыкул супярэчыць усім міжнародным актам, якія падпісала Беларусь, еўрапейскім нормам і нават расійскаму заканадаўству. З гэтай сітуацыяй трэба нешта рабіць, хтосьці мусіць пачынаць, бо далей так працягвацца не можа», — лічыць спадар Мельнікаў.

Наталля Шаўлюкевіч падкрэсліла, што яе сын («Зубр») — дарослы чалавек, ніхто яго туды не заганяў сілаю. «Я — ягоная маці, я яго люблю і адмаўляцца ад яго не збіраюся. У нас таксама быў ператрус, забралі кампутар, а мяне невядомыя збілі ў лесе, і злачынцаў ніхто не знайшоў. Так, я запалоханая, але я збіраюся ісці наперад», — паабяцала жанчына.

Алена Скобля, чый сын Аляксей таксама ваюе ў зоне АТА, распавяла, што ён успрымаў Украіну як вельмі добрую суседку, таму і прыняў рашэнне адправіцца туды, каб «змагацца з агрэсарам». «Ні вітаць, ні асуджаць такое рашэнне — не ў маімі праве, Аляксей дарослы чалавек, такі вось шлях ён для сябе абраў. І да нас прыходзілі з ператрусам нават праз год пасля таго, як сын з'ехаў ва Украіну. Забралі мой планшэт, хоць я казала, што Аляксей ніякага дачынення да яго не меў. Тым не менш, мне планшэт не вярнулі да гэтага часу, хоць я ўжо некалькі разоў звярталася ў адпаведныя органы. На апошні мой зварот нават не было адказу», — паведаміла Алена Скобля.

Зараз, паводле Наталлі Гарачкі-Басалыгі, ёсць намер ужо да канца месяца афіцыйна зарэгістраваць арганізацыю, фармат якой яшчэ вызначаецца. Да таго ж рыхтуюцца звароты да адпаведных чыноўнікаў і дэпутатаў, каб паспрыяць змяненню заканадаўства ў тым накірунку, каб добраахвотнікі з Беларусі, якія афіцыйна змагаюцца на баку ўкраінскага войска і маюць адпаведныя пасведчанні, маглі спакойна вярнуцца дадому, не падпадаючы пад крымінальны пераслед. На спрыянне ў вырашэнні гэтага пытання арганізатары спадзяюцца на амбасаду Украіны ў Беларусі і нават прэзідэнта гэтай дзяржавы Пятра Парашэнку.

# Адправіць на смерць

Арцём ЛЯВА

**Беларускія ўлады хочуць дэпартаваць іранца-хрысціяніна, які жыў у Беларусі апошнія 20 гадоў, на радзіму, дзе яму пагражае смяротнае пакаранне.**

Пра драматычную сітуацыю Мехрдада Джамшыдзіяна, якога іранскія ўлады несправядліва абвінавачваюць у забойстве, а таксама ў здрадзе ісламу, распавялі на прэсавай канферэнцыі юрыст Цэнтра падтрымкі бежанцаў Алесь Міхалевіч, праваабаронца Раман Кісляк і сустаршыня аргкамітэта БХД Павал Севярынец.

Іранец Мехрдад Джамшыдзіян жыў у Беларусі апошнія 20 гадоў. Ён сумленна працаваў, не парушаў закону, прыняў хрысціянства ў баптысцкай царкве, ажаніўся і гадаваў з жонкай-беларускай трох дзяцей. Аднак у 2012 годзе іранскія ўлады абвінавацілі яго ў забойстве сваёй маці і брата, якія прытрымліваліся апазіцыйных поглядаў. У той жа час дакументы сведчаць, што Мехрдад Джамшыдзіян падчас забойства знаходзіўся ў Беларусі. Сваякі Мехрдада таксама ўпэўненыя, што ён не мог здзейсніць злачынства. Беларускія ўлады адмовілі ў экстрадыцыі Мехрдада ў сувязі з тым, што іранскі бок не прадставіў дастаткова доказаў яго вінаватасці, але адначасова пракуратура ініцыявала пытанне пра дэпартацыю іранца ў сувязі з тым, што... ёсць падазрэнне яго датычнасці да двайнога забойства ў Іране.

Праваабаронца Раман Кісляк упэўнены, што такая дэпартацыя фактычна з'яўляецца схаванай экстрадыцыяй, якую законна здзейсніць немагчыма. За падвойнае забойства і пераход у іншую веру іранцу на радзіме пагражае смерць. Праваабаронца мяркуе, што беларускі бок хоча выдаць Мехрдада, каб не сварыцца з каштоўнасна блізкім урадам Ірана. Зараз іранца актыўна шукаюць беларускія міграцыйныя службы. Яму было адмоўлена Дэпартаментам па грамадзянству і міграцыі ў прадастаўленні статуса ўцекача і дадатковай абароны. Суд з гэтым пагадзіўся. Усе сродкі ўнутранай абароны, паводле праваабаронцы, вычарпаныя.

Зараз у Камітэце па правах чалавека ААН зарэгістраваная скарга, бо пад выглядам дэпартацыі фактычна задумана экстрадыцыя ў Іран. Дзяржава ў дадзеным выпадку не павінна прымаць ніякіх мер, пакуль пытанне не вырашана Камітэтам (правіла часовай абароны), аднак, як заўважыў Раман Кісляк, беларускія ўлады, гледзячы на іх паводзіны, не маюць намеру выконваць гэтыя часовыя меры.

Паводле Рамана Кісляка, верагодная высылка Мехрдада ў Іран — грубейшае парушэнне Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які Беларусь абавязана выконваць. «Зараз фактычна ідзе гаворка пра смяротнае пакаранне. Выратаваць Мехрдада можа любая іншая дзяржава, якая пагодзіцца ўзяць яго пад часовую абарону».

Алесь Міхалевіч паведаміў, што ў Камісію кантролю файлаў інтэрпола пададзена заява пра тое, што Мехрдад унесены ў базу інтэрпола з падачы іранскіх уладаў з парушэннем. «Любы цывілізаваны суд запрасіў бы поўны пакет матэрыялаў следства». Паводле Алеся, наша заканадаўства пра палітпрытулак дае права толькі жыць у краіне і працаваць, што ён сумленна рабіў.

Павал Севярынец падкрэсліў, што будзе весці перамовы на гэты конт з міжнароднымі структурамі (у тым ліку хрысціянскімі арганізацыямі) і дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вынікі і выклікі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У дзяржаве ўсё ідзе паводле плану. Лукашэнка лётае ў Кітай, дэпутаты старога парламенту занятыя бюджэтам. А вось у апазіцыі ўсё незаўважна віруе, асабліва пасля таго, як Алена Анісім і Ганна Канапацкая патрапілі ў «палату №6».**

Пасля доўгіх дыскусій Аб'яднаная грамадзянская партыя, ад якой Ганна Канапацкая ішла на выбары і сябрам якой з'яўляецца, вырашыла не прапаноўваць ёй адмовіцца ад дэпутацкага мандата. Канапацкая будзе працаваць у заканадаўчым органе краіны.

І вось тут узнікла пытанне, на якое ўвагу звярталі хіба што гадоў 15 таму. У Канапацкай — паспяховы бізнес, а дэпутатам нельга займацца ніякімі іншымі справамі, апроч дабрачыннасці. І таму бізнесоўка вырашыла пакінуць сваю справу.

На маёй памяці аналагічны выпадак адбыўся, калі ад бізнесу дзеля дэпутацтва адмовіўся Сяргей Скрабец. Абраны дэпутатам у 2000 годзе, ён пакінуў пасаду дырэктара канцэрна «БелБабаеўскае».

Канапацкай ёсць на каго пакінуць справу. Балазе, бацька дэпутаткі ад АГП — вядомы бізнесмен Анатоль Труханoвіч.

«У нас вельмі добрая, дружная сям'я, адчуваю падтрымку бацькоў, сястры ў любой сітуацыі. Бацька заўсёды мяне вучыў паступаць па сумленні, па гонару і па розуме… Тата патэлефанаваў і сказаў: «Ні ў якім разе не складай мандат!» Мой бацька заўсёды быў прыхільнікам пераменаў, лібералізацыі эканомікі, ён чалец АГП, сябар Міхаіла Чыгіра, менавіта яны прывялі мяне на першы ўстаноўчы з'езд партыі. У нашай сям'і любяць паўтараць прымаўку: дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся. Таму меркаванне таты адназначнае: трэба ісці ў парламент і працаваць», — распавяла Канапацкая.

І, дарэчы, у парламенце яна будзе зарабляць менш, чым у сваёй фірме, якая кансультуе інвестараў у Беларусь.

Канапацкая пакуль не вызначылася са сваімі памочнікамі. А вось Алена Анісім некаторых ужо абрала.

Ёй складаней, яна прайшла па рэгіёне. А таму яе памагатыя павінны заставацца «на месцах», у акрузе, у Стаўбцоўскім раёне. Паводле заканадаўства, дэпутату дазваляецца мець да 5 памочнікаў, адзін ці два (стаўка ці паўстаўкі) могуць атрымліваць заробак, іншыя ж мусяць працаваць на грамадскіх пачатках. У Гарадзеі памочнікам Анісім стане Леанід Качановіч, у Коласаве — ягоны брат Анатоль Качановіч. Цяпер дэпутатка шукае памочніка па Стоўбцах.




«Што тычыцца сталага памочніка, які будзе працаваць на стаўцы, то яшчэ шукаю. Нехта адмаўляецца па сямейных абставінах, іншыя — толькі ўладкаваліся на новую працу», — кажа Алена Анісім. Яна лічыць, што асноўным памочнікам павінен быць юрыст, які будзе дапамагаць дэпутатцы з прававымі працэдурамі.

Канешне, дэкларуюць дэпутаткі кожны сваё. Канапацкая адразу пойдзе ў бой за змену выбарчага заканадаўства, Анісім — за беларускую мову. Але змагацца ім давядзецца і з іншымі праблемамі. Напрыклад, з напаўняльнасцю бюджэту самымі скрайнімі сродкамі.

Вось, напрыклад, наш урад за квартал да завяршэння года адкарэктаваў аб'ёмы квот на вытворчасць алкаголю, што рэалізуюцца на мясцовым рынку. У два разы скарочана квота на выпуск беларускай тэкілы, сур'ёзна зрэзаныя планы па рому і віскі. Зменшаны квоты на выпуск гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў, «віна ў пладовых мацаваных марачных, палепшанай якасці і спецыяльнай тэхналогіі».

А вось павялічаныя квоты на каньяк, віна фруктова-ягадныя, віны вінаградныя і брэндзі. То бок, павялічваецца выпуск прадукцыі нізкай цэнавай катэгорыі (апроч каньяку, ён проста папулярны) і, адпаведна, нізкай якасці. Значыць, ні пра якую «культуру піцця» і супрацьалкагалізацыі насельніцтва размова не ідзе.

І гэта ў тыя часы, калі МУС Беларусі працягвае барацьбу за ўзнаўленне практыкі забароны продажу алкаголю ў начны час — з 22 да 9 раніцы.

Прыглядзецца новым дэпутатам давядзецца і да дзейнасці дэпутатаў старых. Прынамсі, «песімістычны» бюджэт, пра які мы шмат пісалі, можа стаць вельмі аптымістычным. Не па нашай правіне, канешне.

Калі прадстаўнікам нафтаздабываючых краін не ўдасца дамовіцца аб сумесных дзеяннях, то кошты барэля нафты могуць упасці ніжэй за 20 долараў. Гэта прагноз міністра нафты і горнаруднай прамысловасці Венесуэлы Эўлохіа дэль Піна. А міністр нафтавай прамысловасці Алжыра Нудэдзін Бутэрфа заявіў, што нафта можа зноў знізіцца да 30 долараў.

Справа ў тым, што пасля зняцця санкцый з Ірана, той адваёўвае свае пазіцыі на нафтарынку любымі сродкамі. І не гатовы абмяжоўваць яе здабычу. А ў АПЕК няма ніякіх рычагоў, каб прымусіць сваіх чальцоў выконваць падпісаныя дамоўленасці. І шанцаў, што падзенне цэн будзе спыненае, практычна ніякіх.

А Беларусь моцна залежыць ад кошту нафты. Нафтаперапрацоўка — адна з асноўных крыніц паступлення ў краіну валюты. Чым танней нафта, тым менш грошай. Калі змрочныя прагнозы апраўдаюцца, «песімістычны» бюджэт з 35 доларамі за барэль будзе выглядаць «аптымістычным». І яго давядзецца карэктаваць.

А ў стане апазіцыі ёсць яшчэ адна інтрыга. Рух «За Свабоду» выбірае новага лідара.

Аляксандр Мілінкевіч, які быў старшынёй руху з 2006 года, заявіў, што не будзе балатавацца на наступны тэрмін. Лічыцца, што галоўныя прэтэндэнты на новага лідара Руху — цяперашнія намеснікі Алесь Лагвінец і Юрась Губарэвіч. Аднак, як кажуць у Руху, не ўсё так адназначна.

«Яшчэ толькі пачаліся рэгіянальныя сходы, і там могуць вылучацца іншыя кандыдатуры. Я б не разглядала толькі гэтыя дзве кандыдатуры», — кажа сябра Рады Руху «За Свабоду» Іна Кулей. Паводле яе меркавання, інтрыга будзе захоўвацца да апошняга моманту. З ёю салідарны каардынатар руху па Магілёўскай вобласці Аляксандр Сілкоў. Паводле Сілкова, самае цікавае, што ўпершыню «нават мы не ведаем вынікаў выбараў».

Не хапала яшчэ, каб апазіцыя ў сваіх выбарах пертварылася ва ўладу з загадзя вызначанымі вынікамі выбараў.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Шымон Перэс



**Ураджэнец Беларусі і экс-прэзідэнт Ізраілю памёр на 94-м годзе жыцця пасля перанесенага два тыдні таму інсульту.**

Перэс нарадзіўся ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна і некаторы час таму прыязджаў на сваю малую радзіму з прыватным візітам. Дома, дзе жыла сям'я Перэс, ужо няма, а вось калодзеж прэзідэнт Ізраіля пазнаў.

Шымон Перэс з'ехаў з Беларусі ў 1934-м, 11-гадовым хлопчыкам. З'ехаў разам з бацькамі, але ў роднай вёсцы Вішнева Валожынскага раёна засталіся шматлікія сваякі, у тым ліку любімы дзед — рабін Цві Мельцэр. Менавіта ён пазнаёміў маленькага Шымона з габрэйскай бібліяй Торай, яны разам вывучалі Талмуд. Дзед іграў на скрыпцы, чытаў хлопчыку Дастаеўскага і Талстога.

Перад ад'ездам унука ў Палесціну Цві Мельцэр даў наказ Шымону: «Заставайся габрэем, заставайся чалавекам…». У пачатку вайны нацысты сагналі яўрэяў Вішнева ў драўляную сінагогу, дзе спалілі жыўцом.

Экс-прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс памёр без пакут, і нават пасля смерці дапамог іншым людзям. Рагавіцы яго вачэй былі ахвяраваны пацыентам, якія маюць патрэбу ў трансплантацыі, паведаміў яго лекар.

## Юрый Базан



**Пад Мінскам пахавалі заснавальніка «Аўтарадыё». Развітанне з Юрыем Базанам адбылося ў Міханавічах. Яму было 54 гады, памёр ён, паводле папярэдніх звестак, ад інсульту.**

Юры Базан аказаўся адзіным у беларускай медыйнай прасторы, на каго «павесілі» калектыўную адказнасць за «няправільнае» асвятленне кампаніі выбараў прэзідэнта ў снежні 2010 года.

12 студзеня 2011 года Рэспубліканская камісія па тэлебачанні і радыёвяшчанні, кіраванне якой сумяшчаў з пасадай міністра інфармацыі Алег Пралямскоўскі, загадала калектыву «Аўтарадыё» згарнуць вяшчанне. Фармальнай прычынай для закрыцця стаў «распаўсюд матэрыялаў, якія ўтрымліваюць публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці». Менавіта так былі ацэненыя выступы кандыдатаў у прэзідэнты Уладзіміра Някляева і Андрэя Саннікава, якія прагучалі ў эфіры радыё. У прыватнасці, лідар «Еўрапейскай Беларусі» заклікаў выбарцаў вырашаць лёс краіны не на кухні, а на плошчы.

Як толькі скончыліся навагодне-калядныя святы, у дзверы «Аўтарадыё» пагрукаліся нязваныя госці з Беларускай дзяржаўнай інспекцыі электрасувязі. І з парога загадалі выключыць перадатчык. Адзіная прыватная радыёстанцыя ў Беларусі, якая вяшчала не з дзяржаўнага, а з уласнага перадатчыка, была знішчаная.

## Сяргей Далідовіч



**Лепшы беларускі лыжнік вырашыў аднавіць кар'еру і пачаў рыхтавацца да свайго 12-га запар чэмпіянату свету, які пройдзе ў фінскім Лахці.**

Дзеля гэтага Сяргей Далідовіч пакінуў пасаду кіраўніка мужчынскай лыжнай зборнай. Дарэчы, і трэнер жаночай лыжнай зборнай Віктар Камоцкі таксама пакінуў пасаду. Галоўным трэнерам зборнай Беларусі па лыжных гонках стаў Іван Лістапад.

У Кубку свету Далідовіч дэбютаваў у 1993 годзе, у сакавіку 2001 года атрымаў сваю першую перамогу на этапе Кубка свету. Прымаў удзел у 11 чэмпіянатах свету, на якіх выходзіў на старт у 34 дысцыплінах. На Алімпійскіх гульнях лепшым дасягненнем Сяргея Далідовіча стала 5-е месца ў мас-старце на 50 кіламетраў у Сочы–2014. Пасля Алімпіяды лыжнік быў узнагароджаны ордэнам Пашаны.



60%

**сісадмінаў ужо пацікавіліся, што яны маглі б «запазычыць» з дадзеных працадаўцы, і ўжо гатовыя прыхапіць карпаратыўныя сакрэты**

# Навучацца, каб махляваць

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Сацыёлагі называюць сённяшніх маладзёнаў — «пакаленне Z». І спрабуюць у ім разабрацца, адшукаць яго матывы ды памкненні. Але мяне бліжэйшае знаёмства з «пакаленнем Z» прывяло да непрыемнага адкрыцця: маладыя людзі адмыслова рыхтуюцца да таго, каб у жыцці паводзіць сябе несумленна.**

Хто лепш за ўсіх іншых ведае, што адбываецца ў фірме? Галоўны бухгалтар? Генеральны дырэктар? Дзяўчынка — офісны менеджар? Не. Верагодней за ўсё, гэта сісадмін — той самы «кампутаршчык», што адзіны прыходзіць на працу ў футболцы і джынсах і незразумела чым займаецца ў сваім невялікім пакойчыку. Менавіта ён кантралюе ўсе інфармацыйныя плыні і часам ведае тое, пра што супрацоўнікі ніколі не паведамяць кіраўніцтву. Але ж у беларускіх (як і агулам постсавецкіх) рэаліях такое веданне робіцца занадта шматсэнсоўнай рэччу.

У выдатным навуковым зборніку «Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI стагоддзі» ёсць цікавае даследаванне, якое мае назву «Структура ідэнтычнасці беларускіх калгаснікаў на пачатку XXI ст.: паміж панам і жыдам». У ім цудоўна раскрыта, як гістарычна фармавалася ментальнасць беларускага селяніна, які ўладзе «пана» ды розуму і грошам «жыда» супрацьстаўляў уласную хітрасць ды здольнасць падпарадкоўвацца, трымаючы ў кішэні адвечную дулю. Сёння тыя сяляне, якіх апісвае даследаванне, перабраліся ў буйныя гарады. Але свой лад мыслення захавалі.

Але ж пра ўсё па чарзе. Нейкі час таму я зразумеў, што мне ўжо не хапае ведаў, каб утаймаваць усю кампутарную тэхніку ў сваёй кватэры. Калі ў цябе тры ноўтбукі, занадта разумны тэлевізар, планшэт/смартфон/Wi-Fi-роўтэр/кабельны мадэм ды іншая кампутарная трасца і халера, то ў пэўны момант пачынаеш пачувацца несамавіта. Вырашыць праблему недастатковай уласнай дасведчанасці я вырашыў праз навучальныя курсы — караценькія, усяго на адзін месяц, па спецыяльнасці «Сістэмны адміністратар». Гэтага цалкам дастаткова, каб здолець утаймаваць хеўру хатняй электронікі.

Калі я патрапіў у навучальную групу, то, натуральна, пачаў прыглядацца да тых, з кім разам мусіў вучыцца. Знаёміцца, назіраць. І вось што ўбачыў. Трація навучэнцаў — людзі прыблізна 40–50 гадоў, якія проста павышаюць сваю кваліфікацыю. Праца ў іх ёсць, але яны хочуць зарабляць больш або лепей выглядаць у параўнанні з калегамі.

**Як атрымалася, што маладыя людзі ад пачатку абіраюць для сябе прафесію сісадміна, зыходзячы з таго, што яна дазволіць ім парушаць закон, махляваць і красці? Адкуль наогул узяўся гэты падыход: пайду навучуся прафесіі, каб больш удала красці?**

Некалькі чалавек — незразумела адкуль і навошта. А вось крыху больш за палову навучэнцаў — зусім маладыя хлопцы, многія толькі пасля школы. Іх мэта — атрымаць «паперку» і ўладкавацца на працу сістэмным адміністратарам у якую-небудзь канторку. Пры тым яны свядома не паступалі ў інстытут — бо гэта занадта доўга і цяжка для іх. Яны мяркуюць такім чынам: навошта губляць пяць гадоў, калі запатрабаваную прафесію можна атрымаць за месяц?

Я пэўны час не мог зразумець: чаму маладзёны абіраюць менавіта прафесію сісадміна — гэта адна з самых нізкааплатных прац у IT-сферы. А пасля нечакана адзін такі хлопец распавёў мне гісторыю, як яго знаёмы, які працаваў сісадмінам, заклаў «лагічную бомбу» ў бухгалтарскую сістэму сваёй фірмы. Яна перыядычна правярала ведамасці на атрыманне зарплаты, і калі з іх знікла прозвішча сісадміна, лагічная бомба знішчыла ўсю інфармацыю на кампутарах.

Хлопец расказваў гэта, і было бачна, як яму падабаецца такая яго ўлада. А пачаўшы размаўляць з іншымі маладымі навучэнцамі, я хутка зразумеў: яны выдатна разумеюць, якія магчымасці сёння мае чалавек, які ў фірме кантралюе ўсе кампутары і кампутарную сетку. І таму ад самага пачатку рыхтуюцца да таго, каб, прыйшоўшы на працу, пачаць на сваю карысць збіраць усю інфармацыю, да якой будуць здольныя дацягнуцца.

Адразу прызнаем: гэта не выключна беларуская праблема, гэта хутчэй развіццё ментальнасці постсавецкага чалавека. Так, расійскі цэнтр РОМІР пару гадоў таму правёў маштабнае вывучэнне ляяльнасці IT-адмыслоўцаў сваім працадаўцам. Як высветлілася, узровень ляяльнасці сісадмінаў у краінах СНД нашмат ніжэй, чым у Еўропе, а іх схільнасць да супрацьпраўных дзеянняў — наадварот, значна вышэй. Так, доступ да ўсіх дадзеных фірмы маюць 95% апытаных сісадмінаў. Пры гэтым 60% ужо пацікавіліся, што яны маглі б з гэтых дадзеных запазычыць. І тыя ж 60% гатовыя прыхапіць карпаратыўныя сакрэты ў выпадку звальнення. А 47% гатовыя прадаць іх «на бок», застаючыся на цяперашняй сваёй працы.

Спрацоўвае прынцып: «хто што ахоўвае, той то і мае». Больш за тое, 27% сісадмінаў ледзь ці не з першага дня працы пачынаюць назапашваць «для асабістага выкарыстання» канфідэнцыйную інфармацыю свайго працадаўцы. Гэта значыць, яны ад самага пачатку разумеюць магчымасць яе канвертавання ў жывыя грошы.

Кампанія «Zecurion Analytics» таксама правяла апытанне сярод расійскіх студэнтаў, падчас якога больш за 60% апытаных прызналіся, што па магчымасці будуць мэтанакіравана красці канфідэнцыйную інфармацыю працадаўцаў. Было апытана больш 8,4 тысячы чалавек з 11 ВНУ васьмі гарадоў Расіі. Даследаванне выявіла сур'ёзную праблему для арганізацый: 54,3% патэнцыйных супрацоўнікаў плануе капіяваць важную для сябе інфармацыю ў выпадку змены месца працы. І толькі 15,7% апытаных прынцыпова не будуць рабіць гэтага. Амаль палова ўсіх рэспандэнтаў (49,3%) перакананыя: працаўнік мае права распараджацца карпаратыўнай інфармацыяй на сваю карысць. 19,2% студэнтаў тлумачаць гэта тым, што сабраная на працоўным месцы інфармацыя з'яўляецца вынікам працы самога супрацоўніка, а 30,1% упэўненыя, што доступ да інфармацыі аўтаматычна дазваляе выкарыстаць яе паводле свайго меркавання.



Псіхолагі тлумачаць, чаму сісадміны лёгка становяцца інсайдэрамі. Чалавек, які разбіраецца ў сістэмах, недасяжных «простым смяротным», звычайна мае вельмі высокую самаацэнку. Аднак ні ў прыватных фірмах, ні ў дзяржарганізацыях працадаўцы звычайна не гараць жаданнем «слацца» перад «простым кампутаршчыкам». Адсюль — крыўды. Інтэрнэт перапоўнены гісторыямі сісадмінаў, якіх замест асноўнай працы прымушаюць падбіраць ноўтбук сыну дырэктара і змяняць картрыджы ў друкарцы, аднachасова лаючы за гультайства. (Добра наладжаная сетка працуе сама, але якая да таго справа працадаўцу?) Але як можна чакаць ляяльнасці ад «зняважанага і абражанага» супрацоўніка, які пры гэтым мае доступ да ўсёй інфармацыі фірмы?

Аднак гэта датычыць тых людзей, якія ўжо працуюць сістэмнымі адміністратарамі, — і, як правіла, даўно. Але як выйшла так, што маладыя людзі ад пачатку абіраюць для сябе прафесію сісадміна, зыходзячы з таго, што яна дазволіць ім бяскарна (як ім здаецца) парушаць закон, махляваць і красці? Адкуль наогул узяўся гэты падыход: «пайду навучуся прафесіі, каб больш удала красці»? Справа тут у бясконцых аповедах пра высокія заробкі IT-адмыслоўцаў або ў чымсьці іншым?

А вось адваротны бок таго ж пытання. Пару гадоў таму мне давялося нефармальна пагутарыць з кадравікам аднаго — не надта вялікага — беларускага банка. І ён распавёў, як яны пры прыёме на працу правяраюць касіраў і супрацоўнікаў службы інкасацыі — то бок тых, хто павінен працаваць з наяўнымі грашыма. Аказваецца, сумесна са службай бяспекі аддзел кадраў складае падрабязны псіхалагічны партрэт кожнага кандыдата. У яго ўчастковага высвятляюць, якая ў кандыдата сям'я. І радавод глядзяць ледзьве не да Адама, і «род занятках да рэвалюцыі» правяраюць, высвятляюць, ці не прыцягваўся, ці не быў заўважаны, ці не прысутнічаў і за каго галасаваў.

«А як вы сістэмных адміністратараў падбіраеце?» — пацікавіўся я. «Каго? А, кампутаршчыкаў... Ну, тут глядзім, каб дыплом быў БДУ або БРТІ. Такія заўсёды ў кампутарах разбіраюцца. Што там яшчэ глядзець?..» Здаецца, тлумачыць штосьці гэтаму банкаўскаму супрацоўніку (былому працаўніку міліцыі) было ўжо без сэнсу. Для яго красці грошы — гэта браць цішком з касы або ўцякаць з мехам купюр. Але менавіта IT-персанал мае больш за ўсё магчымасцяў, каб красці любыя сумы незаўважна, нават не пакідаючы свайго працоўнага месца. Мабыць, нават больш магчымасцяў, чым галоўны бухгалтар. Бо сістэмны адміністратар — гэта чалавек, які мае доступ абсалютна да ўсёй інфармацыі банка або фірмы. І калі ён першапачаткова задумаў нядобрае — гэта рэальная і вялікая праблема.

# Таццяна Вадалажская: «Нашыя слухачы — гэта авантурысты»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Вакацыі скончыліся — Лятучы ўніверсітэт распачынае чарговы навучальны год. Чым арганізатары парадуюць тых, каму не хапае класічнай школьна-ўніверсітэцкай адукацыі? Пра асаблівасці «лятучага» навучання мы пагутарылі з вядомай метадолагам і сацыёлагам, выкладчыцай Лятучага ўніверсітэта Таццянай Вадалажскай.**



***— Таццяна, распавядзіце, калі ласка, якую праграму Лятучы ўніверсітэт прапануе слухачам на гэты год?***

— Сёлетняя праграма, з аднаго боку, новая, а з іншага — яна працягвае тэмы, якія былі і раней. У гэтым годзе яна засяроджаная на тым, каб зразумець, сканструяваць індывідуальнасць — і сваю асабістую, і пэўную нашу супольную. Праграма прапануе розныя тэхнікі, метады — перш за ўсё, філасофская канструяванне працы з рэчаіснасцю і з сабой. У гэтым годзе, гэтак жа, як і ў мінулым, у нас два ўзроўні. Першы ўзровень — для вольных слухачоў. На курсы запісваюцца ўсе, хто хоча. Курс — гэта звычайна дзесяць-дванаццаць заняткаў, якія праходзяць прыкладна раз на тыдзень. Мы прапануем дзевяць курсаў, сярод якіх курсы Уладзіміра Мацкевіча, Ігара Бабкова, Міхала Анепадыстава, Школа Біблії Ірыны Дубянецкай ды іншыя. Другі ўзровень — гэта «Школы Магістраў Гульні». У гэтым годзе мы не набіраем новыя групы, але ёсць данабор, і калі маецца жаданне, можна патрапіць у тыя групы, якія ўжо працуюць, — Школу гісторыі ідэй, Метадалагічную школу, Школу ВКЛ і Школу сацыяльна-філасофскай аналітыкі. Будзе і шэраг семінараў — гэта больш змястоўная і грунтоўная праца з калегамі.

***— Ці магчыма спалучаць, напрыклад, навучанне ў звычайным універсітэце ці працу з вучобай у Лятучым?***

— У нас дзейнічае г. зв. прынцып індывідуальных траекторый, то бок ніхто не фармуе праграму для кожнага, а навучэнцы выбіраюць самі, куды ім ісці — на адзін курс альбо на ўсе. Але калі запішацеся на ўсе, у вас будуць занятыя ўсе вечары, таму трэба разлічваць на асабістыя фізічныя і інтэлектуальныя магчымасці.

Многія нашы слухачы «перацякаюць» з года ў год, праходзяць розныя курсы. А многія засяроджваюцца на адной тэме, бо кожны год мы прапануем розныя праграмы, і нават калі назва курса засталася такой самай, змест заўсёды мяняецца, не паўтараецца.

***— А як праходзяць самі заняткі?***

— Паколькі ў нас усё арыентавана не на дысцыпліны ці тэмы, а, хутчэй, на асобу выкладчыка, то і заняткі выбудоўваюцца, зыходзячы з гэтага. Напрыклад, Ірына Дубянецкая чытае лекцыі пра Біблію — і ў іх з навучэнцамі праходзіць такая супольная праца над тэкстам. Ты можаш сядзець і папросту слухаць, а можаш прапаноўваць свае пераклады, інтэрпрэтацыі. У нашых філосафаў, відаць, трохі больш лекцый, але гэта не адмяняе дыскусіі, спрэчкі і г.д. У мінулым годзе курс Уладзіміра Мацкевіча скончыўся серыяй філасофскіх інтэрв'ю і дыялогаў са слухачамі — магчыма, і ў гэтым годзе так будзе. Хатніх заданняў практычна няма, таму за непаспяховасць нікога не выганяем.

***— «Сярэдні» слухач Лятучага ўніверсітэта — гэта хто?***

— Мы спрабавалі вызначыць гэтага «сярэдняга» слухача, але цэласны вобраз не вызначаецца, бо гэта вельмі розныя

**У нас дзейнічае прынцып індывідуальных траекторый, то бок ніхто не фармуе праграму для кожнага, а навучэнцы выбіраюць самі, куды ім ісці — на адзін курс альбо на ўсе. Але калі запішацеся на ўсе, у вас будуць занятыя ўсе вечары, таму трэба разлічваць на асабістыя магчымасці**

людзі — ад кандыдатаў навук, якія ходзяць хутчэй да калегаў дзеля размоваў, дыскусій, да ўчорашніх школьнікаў, якія шукаюць новых ведаў. Часцей гэта не студэнты, а людзі, якія ўжо скончылі ВНУ і адчуваюць патрэбу ў далейшым развіцці.

Лятучы ўніверсітэт — гэта выклік не толькі для студэнтаў, але і для выкладчыкаў, бо мы выкладаем перад групамі, ад якіх ты не ведаеш, чаго чакаць. Большая праблема не ў тым, што ў слухачоў розны ўзровень, а ў тым, што гэта не студэнты, якія ведаюць, што яны абавязаныя нешта здаць, а абсалютна вольныя людзі, якія маюць свае мэты і задачы на гэтыя курсы, маюць свой досвед. Спачатку вельмі складана зразумець групу, але звычайна праз некалькі заняткаў ужо ўсталёўваюцца пэўныя адносіны. Гэта і выклік, але і цікава.

***— Вось чытаеш назвы курсаў, напрыклад, «Тэхнікі сімвалічнай інтэрпрэтацыі» альбо «Уводзіны ў пост-каланіяльную тэорыі», — і становіцца страшна, што нічога не зразумееш на занятках...***

— Па-першае, цяжка павінна быць, і гэта нармальна. Імкненне да спрашчэння — гэта не для ўніверсітэта. Па-другое, шмат што залежыць ад таго, ці гатовы чалавек разбірацца і нешта аналізаваць, альбо проста атрымліваць разжаваную інфармацыю. У нас вельмі розныя выкладчыкі, можна параўнаць розныя стылі мыслення і знайсці таго, з кім табе найбольш зручна высвятляць праблемы, што цябе цікавяць.

Наогул, такога кшталту адукацыя — гэта складана, гэта цяжка па-чалавечы, бо ты змяняешся, а калі ты змяняешся, трэба адмаўляцца ад сябе ўчорашняга. Мы і не імкнёмся да ўтылітарнай адукацыі, цяпер такіх магчымасцяў хапае, навошта рабіць тое, што робяць іншыя.

Лятучы ўніверсітэт — гэта ў пэўным сэнсе гульня, ты прыходзіш і не ведаеш, якім ты выйдзеш, гэта пэўная рызыка. Мне падаецца, што новыя людзі, якія прыйдуць у гэтым годзе, — гэта авантурысты ў добрым сэнсе гэтага слова.

***— Ці можаце парэкамендаваць нейкі адмысловы курс чалавеку, які толькі пачынае знаёміцца з Лятучым універсітэтам?***

— Вельмі складана нешта рэкамендаваць, мне падаецца ўсё вельмі цікавым. Я б параіла глядзець не на назвы курсаў, а на выкладчыкаў, тым больш пра кожнага з іх можна знайсці досыць інфармацыі ў інтэрнэце. Пачытайце і вызначце чалавека, з якім вам будзе цікава задаваць пытанні сабе і сусвету.

*Запіс на курсы і ў школы Лятучага ўніверсітэта адкрыты да 12 кастрычніка. Запісацца, а таксама падрабязна азнаёміцца з праграмай і зместам курсаў, можна на сайце Лятучага універсітэта www.fly-uni.org. Навучанне бясплатнае, заняткі праходзяць на беларускай і рускай мовах.*

# Беларускія мысляры на тыдзень захапілі Мінск

**Падчас Тыдня беларускага мыслення, зладжанага Лятучым універсітэтам, прайшло больш за шэсцьдзясят імпрэзаў у васьмі беларускіх гарадах.**

Праект Лятучага ўніверсітэта «Год беларускага мыслення» завяршыўся — ды яшчэ як! Цягам сямі дзён — Тыдня беларускага мыслення — любы зацікаўлены мог наведаць самыя разнастайныя па фармаце і змесце мерапрыемствы як агульнагуманітарнай і філасофскай, так і вузкаспецыялізаванай тэматыкі — напрыклад, у Мінску прайшлі публічныя лекцыі, прысвечаныя інтэлектуальным сістэмам ды оптыцы.

Вялікую цікавасць выклікала выстава «Cogito Albarutheniae» («Мыслю Беларусь»). Панарама беларускага мыслення», на адкрыцці якой сабраліся самыя яскравыя прадстаўнікі беларускай інтэлектуальнай прасторы — Валянцін Акудовіч, Сяргей Дубавец, Ірына Дубянецкая, Уладзімір Мацкевіч, Уладзімір Някляеў, Валер Булгакаў ды іншыя выбітныя беларускія мысляры. На выставе можна было паглядзець і пагартаць энцыклапедыі, анталогіі, зборнікі, перыёдыку — усю тую друкаваную прадукцыю, якая пачынаючы з другой паловы 1980-х гадоў фіксавала, што ў Беларусі створаны айчынны інтэлектуальны дыскурс.

Некаторыя імпрэзы былі арганізаваныя Лятучым універсітэтам супольна з іншымі адукацыйна-культурніцкімі ініцыятывамі. Напрыклад, курсы беларускай мовы «Мова Нанова» зладзілі публічны моўны занятак па тэме «Беларускае мысленне», кнігарня «Логвінаў» арганізавала «Гедройцаўскі марафон» з удзелам аўтараў кнігаў з шорт-ліста адпаведнай прэміі, а ініцыятыва «Фаланстэр» арганізавала майстар-клас па беларускай Вікіпедыі.

Больш за сто чалавек сабраліся на дыскусію «Сучасная беларуская ідэнтычнасць: праблемы і выклікі», якую Лятучы ўніверсітэт зладзіў супольна з кампаніяй «Будзьма беларусамі». У межах дыскусіі эксперты горача абмяркавалі сучасную моду на вышыванкі, а таксама разам з публікай высвятлялі, ці магчыма фармаванне нацыянальнай ідэнтычнасці без дэмакратызацыі дзяржавы. Акрамя ўласна дыскусіі, на сустрэчы адбыўся паказ вышыванак ад некаторых беларускіх вытворцаў.

Нягледзячы на тое, што арганізатары стараліся правесці мысьлярскія сустрэчы не толькі ў сталіцы, але і ў рэгіёнах — у прыватнасці, мерапрыемствы ў межах Тыдня адбыліся ў Брэсце, Магілёве, Гомелі, Віцебску, Гродна, Бабруйску і Астраўцы, — па колькасці падзей гэтым гарадам было далёка да сталіцы. У Мінску ў адзін дзень праходзіла па чатыры-пяць імпрэзаў, у той час як у Гомелі ці Магілёве — па адной за тыдзень. І гэта, бадай, адзіны мінус Тыдня беларускага мыслення, бо адолець столькі цікавых мерапрыемстваў за дзень многім мінчукам было не пад сілу, з-за чаго на некаторыя вартыя лекцыі збіралася зусім няшмат людзей.

Лятучы ўніверсітэт пакуль не абвяшчаў, ці будуць праходзіць Тыдні мыслення яшчэ, аднак можна спадзявацца, што гэтая ініцыятыва ператворыцца ў сталую традыцыю. Бо вучыцца мысліць — навык, патрэбны ўсім нам.

Апошняй падзеяй у межах Тыдня мыслення стала дыскусія «Беларускае мысленне: Quo vadis?»

# Зігмар Габрыэль — наступны канцлер ФРГ?

Алег НОВІКАЎ

**Папулярна думка, што вынікі выбараў у зямельны парламент Берліну 18 верасня сталі прадвеснікам прыходу да ўлады ў Германіі сацыял-дэмакратаў. Называецца і прозвішча будучага канцлера — Зігмар Габрыэль, старшыня Сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD), міністр гаспадаркі і энергетыкі ў кааліцыйным урадзе Ангелы Меркель.**



**Ужо хапае прагнозаў наконт курсу будучага кабміну. На думку «Gazeta Wyborcza», «Берлін пры ўрадзе эсдэкаў пачне ігнараваць Польшчу, а Украіну аддасць у сферу ўплыву Расіі»**

Ці можа партыя катастрафічна падаць у рэйтынгах, каб у выніку ўзначаліць урад? Аказваецца, можа. Доказ таму — нямецкія эсдэкі. За апошнія 3–4 гады «ружовыя» пабілі ўсе гістарычныя антырэкорды сваёй папулярнасці, у выніку чаго колькасць немцаў, якія галасуюць за эсдэкаў, скарацілася з 30 працэнтаў да 22–23.

Аднак не ўсё не так кепска, калі ў твайго вядучага канкурэнта справы яшчэ горш. 18 верасня ў Берліне хрысціянскія дэмакраты Ангелы Меркель са свістам прайгралі другія запар рэгіянальныя выбары. Асноўная прычына — фурор правапапулістаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі», якая гуляе на антыэмігранцкіх фобіях.

Эсдэкі ў сталіцы таксама шмат страцілі. Увогуле, гэта самы кепскі вынік для партыі пасля вайны. Але пры ўсіх стратах адносную большасць у Сенаце SPD захавала і, як следства, мае правы фармаваць урад. Аднак значна важней іншае. На думку экспертаў, у сталічным парламенце мы назіраем прававобраз Бундэстагу наступнага склікання, дзе больш за ўсё шанцаў для паўстання кааліцыйнага ўраду левых (эсдэкі, «Зялёныя» і «Левыя»). Як пажартавала амерыканскае выданне «Politico»: «Сардэчна запрашаем у Берлінскую рэспубліку».

Адначасова прэса ўжо пачала асцярожна віншаваць лідара эсдэкаў Зіграма Габрыэля з будучай пасадай канцлера.

Зігмар Габрыэль нарадзіўся ў 1959 годзе ў Ніжняй Саксоніі ў беднай сям'і. Падчас вучобы ва ўніверсітэце на філолага стаў актывістам сацыял-дэмакратычнай моладзі. З 1989 да 1999-га прайшоў шлях ад дэпутата сходу грамады да лідара фракцыі SPD у Бундэстагу, быў прэм'ерам Ніжняй Саксоніі. У 2009 годзе стаў старшынёй партыі. Жыве ў грамадзянскім шлюбе з доктаркай-стаматолагам, з якой разам выхоўвае дачку ад яе першага шлюбу.

Хаця сам Габрыэль яшчэ афіцыйна не заявіў пра свой намер балатавацца ў канцлеры, ужо хапае прагнозаў наконт курсу будучага кабміну. Так, на думку польскага выдання «Gazeta Wyborcza», «Берлін пры ўрадзе эсдэкаў пачне ігнараваць Польшчу, а Украіну аддасць у сферу ўплыву Расіі».

Аднак ужо праз пару дзён «віртуальная кааліцыя пад Габрыэля» пачала разбурацца. Перш за ўсё, аказалася, што не ў захапленні ад кандыдатуры Зігмара ягоныя аднапартыйцы. Паводле сацыялогіі, канцлерам Габрыэля бачаць толькі 35% сяброў SPD. Папулярныя забабоны, што Габрыэль, які вядомы як аматар кампрамісаў, на сімвал пераменаў не пацягне. Не дзіўна, што ўжо з'явіліся новыя прэтэндэнты на пасаду прэм'ера-эсдэка. Называюцца прозвішчы гамбургскага бургамістра Олафа Шольца і прэм'ера зямлі Шлезвіг-Гальштэйн Торстэна Албіга.

Няма кансалідаванай пазіцыі і ў іншых патэнцыйных кааліцыянераў. У «Левых» магчымасць уваходжання ў федэральны ўрад успрымаецца больш-менш пазітыўна. Такая ацэнка зразумелая, калі ўзгадаць, што яны — нашчадкі камуністаў ГДР, і доўгі час лічыліся рукапеліцскальнымі былымі агентамі Штазі. Партфелі федэральных міністраў канчаткова рэабілітуюць «Левых» у вачах бюгераў.

Аднак хапае і праціўнікаў блоку з эсдэкамі. Ветэраны партыі вельмі баяцца за рэнамэ «Левых», якія робяць сабе імя на крытыцы капіталізму. «Пакуль мы не распрацуем механізм ціску па сацыяльных пытаннях, лепш утрымацца ад удзелу ў кабінеце з эсдэкамі», — лічаць былы старшыня партыі Грэгар Гізі. Недавер да эсдэкаў на левым флангу выклікала свежае рашэнне іх кіраўніцтва прагаласаваць за Дамову пра зону вольнага гандлю з Канадай (CETA), якая, як лічаць прафсаюзы, кепска паўплывае на працоўнае заканадаўства ў краіне.

У сваю чаргу, лідары «Зялёных» кажуць, што мадэль кааліцыі з удзелам эколагаў на ўзроўні адной зямлі не можа быць прыкладам для мадэлі ўрадавай кааліцыі на федэральным узроўні. Асцярожнасць можна растлумачыць тым, што частка эколагаў даўно арыентавалася на блок з кансерватарамі. Акрамя таго фармат супрацоўніцтва з «Левымі» ў адным урадзе дастаткова новы для «Зялёных». Толькі ў адной зямлі ФРГ працуе «чырвона-зялёна-чырвоная» кааліцыя, якая ў дадатак не праводзіць: а) заменжнапалітычны курс і б) не адказвае за знешнюю бяспеку.

Агучаныя тэмы стануць, на думку экспертаў, сапраўднымі бомбамі пад магчымую новую кааліцыю. Па некаторых пытаннях у патэнцыйных кааліцыянтаў проста палярныя падыходы. Напрыклад, «Зялёныя» крытыкуюць Пуціна, эсдэкі не супраць шукаць з імі прагматычны дыялог, а «Левыя» ўвогуле лічацца лабістамі інтарэсаў Крамля ў Германіі. Прычым, калі федэральны парламент будзе дубляваць берлінскі, то «Левыя» як другая па колькасці мандатаў партыя сярод партый кааліцыі, атрымаюць пасаду дырэктара нямецкага МЗС. Калі ўзгадаць, што партыя ўвогуле выступае за ліквідацыю NATO, дык міжпартыйныя калізіі падаюцца проста непазбежнымі. І самае галоўнае: у левых партый няма адзінай пазіцыі па праблеме мігрантаў — гэтая тэма на цяперашні дзень займае першае месца ў нямецкай палітычнай павестцы дня.

Усе гэта дазваляе некаторым ужо зараз прагназаваць «хуткі капут» ураду Габрыэля ў выпадку яго фармавання. Вынікам стане вяртанне да цяперашняй мадэлі ўраду: хрысціянскія дэмакраты плюс сацыял-дэмакраты. Нарэшце, нельга выключыць, што кансерватары за той год, што застаўся да выбараў, рэабілітуюцца перад выбаршчыкамі, якія пачалі галасаваць за «Альтэрнатыву для Германіі», і захаваюць першынства на выбарах. Каментуючы берлінскае фіяска, Ангела Меркель прызнала свае памылкі ў пытанні мігрантаў, аднак адмовілася прымаць ультыматум баварскіх кансерватараў. Баварцы дэ-факта прапануюць не чакаць, калі правы цэнтр абрынецца пад хваляй папулізму, а самім пачаць эксплуатаваць антыэміграцкія лозунгі «Альтэрнатывы для Германіі». Хутчэй за ўсё, гэта канчаткова высветліцца не раней за снежань, калі партыя Меркель правядзе свае партыйныя сходы, на якіх будзе названае прозвішча кандыдата ў канцлеры.

Канстатуючы наяўнасць значнай колькасці невядомых, наўрад ці сёння атрымаецца запісаць формулу вызначэння будучага канцлера. Лепш пагадзіцца з Джэмам Оздземірам, сустаршынёй «Зялёных», які так пракаментаваў спекуляцыі пра магчымы ўрад Зігмара Габрыэля: «Пра тое, што будзе ў 2017 годзе, лепш размаўляць у 2017-м».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Крэмль пакуль афіцыйна не адрэагаваў на цяперашнія эскапады беларускага саюзніка. Як, зрэшты, і раней, Масква і асабіста Пуцін імкнуліся не адказваць на перыядычныя прыступы незадаволенасці бацькі эфектыўнасцю «інтэграцыйных працэсаў» (чытай, расійскімі датацыямі). Крамлёўскі змагар з «галоўнай геапалітычнай катастрофай XX стагоддзя» выдатна ведае цану незалежнасці і суверэнітэту Мінска, а таксама рэцэпт палітычнага доўгажыхарства свайго беларускага калегі. Пажыццёвага калегі, які спрабуе супрацьстаяць формуле расійскага прэм'ера Мядзведзева «грошай няма, але вы трымайцеся». З іншага боку, былы зампаліт Лукашэнка ўпэўнены, што са стратай Украіны, Крамлю патрэбны стратэгічны плацдарм на мяжы з Еўропай, і гэта, маўляў, дае яму козыры ў гандлі з заклятым саюзнікам па еўразійскай інтэграцыі.

**«Главком» (Украіна)**

Нельга забываць, што афіцыйны Мінск заўсёды імкнецца атрымаць як мінімум двайную выгаду як ад расійскіх партнёраў, так і ад Захаду. А таму цалкам лагічна, што даволі рэзкія выказванні беларускага прэзідэнта прагучалі менавіта тады, калі прайшлі парламенцкія выбары, якія не атрымалі негатыўнай ацэнкі з боку ЕС, а ў краіну прыехала місія МВФ. Проста кажучы, Лукашэнка ўсё ж такі вырашыў прастымуляваць сваіх новых заходніх сяброў антырасійскай рыторыкай у надзеі на тое, што яны нарэшце дадуць яму грошай. І такое імкненне беларусаў любымі спосабамі выбіць з Брусэля фінансаванне, на самай справе, выглядае смешна.

**«Regnum» (Расія)**

Мы тут нярэдка выпускаем крытычныя стрэлы на адрас самога Аляксандра Лукашэнкі, кажучы пра тое, што цесная інтэграцыя спускаецца на тармазах менавіта ім, каб не страціць статус «Бацька». Аднак Лукашэнка недвухсэнсоўна дае зразумець, што карані праблемы варта пашукаць у іншым месцы. Адкрытым тэкстам беларускі прэзідэнт кажа пра тое, што асобныя прадстаўнікі свету расійскіх грашовых мяшкоў тармозяць інтэграцыйны працэс проста таму, што ім невыгодны сам факт кансалідацыі на постсавецкай прасторы. Гэтую заяву складана пакінуць па-за ўвагай.

**«Военное обозрение» (Расія)**

Эканамічная сітуацыя ў Беларусі зараз вельмі цяжкая. Фактычна краіна стаіць на парозе суверэннага дэфолту, і таму Лукашэнка імкнецца пазбегнуць гэтага ўсімі сродкамі, прыцягваючы грошы адкуль толькі можна. Таму намёкі беларускага прэзідэнта на паслабленне інтэграцыйных сувязяў з Масквой ёсць проста тактыкай па выбіванні большага аб'ёму датацый для Мінска. Але тут праблема ў іншым. А менавіта ў тым, што магчымасці самой Расіі зменшаюцца. І наколькі Расія ў стане задаволіць патрэбы Беларусі — гэта адкрытае пытанне. Пасля смерці Карымава спатрэбяцца вялікія сродкі для пераарыентацыі Узбекістана ў бок Расіі. Толькі, на жаль, у Мінску гэтага не ўлічваюць.

**«Voice of America» (ЗША)**

# Сепаратысцкія трэнды на фоне адзінства

Алег НОВІКАЎ

**Уся Германія 3 кастрычніка святкуе дзень адзінства. Фонам для святкавання стала мода на стварэнне рэгіянальных партый і праектаў.**

На піку феадальнай раздробленасці ў Германіі налічвалася каля 200 дзяржаўных фармаванняў. Прычым некаторыя з іх (Баварыя, Саксонія) былі значнымі еўрапейскімі гульцамі. І не дзіўна, што шмат дзе ў Германіі існуе моцная рэгіянальная або сепаратысцкая палітычная традыцыя. Знішчыць яе не змог нават Бісмарк, які праводзіў вельмі жорсткую палітыку культурнай асіміляцыі. Перажыла яна і часы гітлераўскай дыктатуры, калі ўсе органы мясцовага самакіравання былі інтэграваны ў партыйна-адміністратыўную вертыкаль Трэцяга рэйху. Яшчэ да падпісання Акта аб капітуляцыі баварскія незалежнікі зандавалі глебу наконт таго, каб заходнія саюзнікі далі згоду на адраджэнне баварскай дзяржаўнасці.

Гэтыя сепаратысцкія памкненні шмат у чым былі ліквідаваныя федэратыўным прынцыпам дзяржаўнага ладу Заходняй Германіі. Землі — суб'екты федэрацыі — атрымалі вялікі пакет паўнамоцтваў, аж да права мець сваё МУС. Да таго ж нямецкі эканамічны цуд 1950–1960-х гадоў мінулага стагоддзя астудзіў інтарэс да змены рэжыму. Як следства, сепаратысцкія партыі згубілі электарат і ператварыліся ў невялікія клубы інтэлектуалаў. Сацыяльную базу і, адпаведна, выбаршчыка захавалі толькі тыя структуры, якія абапіраліся на нацыянальныя меншасці (датчане, фрызы, швейцарцы і г.д.).

Свой высокі статус у нямецкай палітыцы захаваў выключна баварскі Сацыяльна-хрысціянскі саюз (CSU), які застаецца вядучай рэгіянальнай кансерватыўнай партыяй і партнёрам хрысціянскіх дэмакратаў. Аднак гэта не было наступствам папулярнасці сепаратысцкіх сантыментаў. Сепаратызм быў фішкай іншай, так званай «Баварскай партыі». Што ж тычыцца CSU, дык яна падабалася людзям за моцную сацыяльную дактрыну. Аўтары праекту CSU лічылі, што на аснове каталіцкага этасу можна нівеляваць кепскія праявы капіталізму.

Першы раз пра пагрозу сепаратызму ў ФРГ пачалі казаць пасля далучэння зямель былой Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР). Турбулентнасць рынкавых рэформаў не спадабалася шмат каму з усходніх немцаў. Самай папулярнай формай пратэсту стала галасаванне за Партыю дэмакратычнага сацыялізму (PDS) — нашчадка партыі камуністаў ГДР. Хаця партыя з тых часоў моцна змянілася, яна дасюль мае імідж палітсілы, якая абараняе інтарэсы насельніцтва зямель экс-ГДР.

Тым не менш, запісваць PDS, а таксама і яе пераемніка — партыю «Левыя», — у сепаратысты па меншай меры вульгарна. Хаця б таму, што партыя фармальна не дэкларуе задачу рэстаўрацыі асобнай дзяржавы на ўсходзе, выступае за сацыялістычную перспектыву для ўсёй краіны. У гэтым плане цікава, што партыя «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), на думку некаторых, мае ўсе шанцы ператварыцца ў рэгіянальны ўсходненямецкі праект. Справа ў тым, што менавіта ўсходнія немцы пакутуюць на ксенафобію, разумеючы гэта як нейкі важны элемент мясцовай ідэнтычнасці.

Калі «Левыя» не адносяцца да рэгіяналістаў, дык тыя характарыстыкі пасуюць шэрагу партый, якія ўсё часцей паўстаюць у Германіі ў апошнія дзесяць гадоў. Гэта партыі «Фрызы», «Саюз Франконцаў», «Вестфальцы»...

Асобна ў гэтым каталогу стаіць партыя «Lausitzer Allianz», або «Лужыцкі альянс», якая намагаецца абараняць інтарэсы славянскіх меншасцяў, што захавалі мову і самаідэнтычнасць, нягледзячы на амаль дзесяць стагоддзяў нямецкай культурнай асіміляцыі. З улікам таго, што славяне жывуць выключна ў шэрагу раёнаў Саксоніі і Турынгіі, «Лужыцкі альянс» не патрабуе стварэння асобнай федэральнай зямлі, але лічыць патрэбным прыняць закон аб нейкім славянскім парламенце. Гэты орган, куды павінны ўваходзіць дэпутаты з гістарычных славянскіх земляў, мусіць выступаць у якасці дарадчыка ландтагаў — зямельных парламентаў. Ідэя пра славянскі парламент — не з шэрагу фантазій. Падобны орган існуе пад Штутгартам, — так званы «Region Stuttgart». Праўда, перш за ўсё сорбы і ніжнія лужычане патрабуюць двухмоўя ў публічных і адукацыйных установах.

**Першы раз пра пагрозу сепаратызму ў ФРГ пачалі казаць пасля далучэння зямель ГДР. Турбулентнасць рынкавых рэформаў не спадабалася шмат каму з усходніх немцаў**

Прычынай для ўзнікнення згаданых рэгіянальных праектаў, перш за ўсё, лічыцца глабальны эканамічны крызіс, калі на месцах адчуваецца дэфіцыт ліквідных рэсурсаў. Адказнасць за сітуацыю бюргер вельмі часта перакладае на цэнтр, прычым неабавязкова федэральны. Так, «Саюз франконцаў» крытыкуе Мюнхен за тое, што той, быццам, сядзіць на шыі ў Нюрнберга (гістарычная сталіца Франконіі), патрабуючы выхаду франконскага краю са складу Баварыі.

Другім драйверам для рэгіяналісцкіх забабонаў сталі навіны з Шатландыі, Каталоніі і іншых рэгіёнаў краін ЕС, якія намагаюцца атрымаць незалежнасць, не выходзячы за межы нацыянальнага і еўрапейскага права. Рэхам шатландскага рэферэндуму ў Германіі сталі, акрамя ўсяго, публікацыі кнігі «Баварыя здольная сама», аўтар якой фармулюе сацыяльна-эканамічныя падставы для існавання заможнай баварскай дзяржавы.

Нарэшце, у мінулым годзе з'явіўся трэці і самы моцны фактар, каб цікавіцца рэгіянальнымі канцэптамі — міграцыйны крызіс. Больш за ўсё ён закрануў паўднёвыя землі. Мясцовыя адміністрацыі, якія вымушаны прымаць мігрантаў, вінавацяць Берлін за тое, што той даў згоду на прыём уцекачоў. На іх думку, наадварот, неабходны план стрымлівання навалы.

Найбольш моцна асуджаюць курс Меркель у Баварыі, дзе дапускаюць нават аўтаномны ўдзел CSU у федэральных парламенцкіх выбарах у наступным годзе. Такой камбінацыі, як удзел асобнай рэгіянальнай партыі ў агульнанямецкіх выбарах, у гісторыі ФРГ не было з часоў першых выбараў у Бундэстаг. Цяжка сказаць, ці рызыкнуць баварцы гуляць сольна, і на што можа разлічваць CSU на федэральным узроўні. Аднак нават факт падобнай выбарчай кампаніі можа мець самыя непрадказальныя наступствы для нямецкага адзінства.



## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Крэмль будзе ціснуць на Лукашэнку, патрабуючы павышэння цаны на нафту і газ. Мэта Масквы — распрануць беларусаў. Цяпер ім будзе вельмі складана. Пры гэтым ужо і часу няма, каб падрыхтавацца да супрацьстаяння агрэсіі з боку Расіі. Складаная там сітуацыя і ў інфармацыйным плане. Калі ў Крыме палова войскаў перайшла на бок ворага, то ў Беларусі толькі адзінкі ваенных стануць на абарону сваёй краіны ад РФ. Не сакрэт, што Генштаб у Мінску будзе выконваць указанні Крамля.

**Gordon.ua (Украіна)**

Беларускі лідар прыгразіў сур'ёзна разглядзець пытанне аб выхадзе з ЕАЭС. Але кансенсус у выніку дасягнуты, вядома, будзе, паколькі гэта не першы капрыз Бацькі. У беларускага кіраўніцтва такое меркаванне, што, калі ўжо у нас Еўразійскі саюз, то цяпер да Беларусі і да беларускай прадукцыі на расійскім рынку трэба ставіцца так жа, як у расійскіх рэгіёнах. Хаця Лукашэнка і заяўляе, што Мінск мае намер скараціць колькасць сваіх прадстаўнікоў у ЕАЭС, але гэта не азначае, што будуць згорнутыя інтэграцыйныя працэсы.

**«Inforeactor» (Расія)**

Напярэдадні выбараў Лукашэнка заявіў пра тое, што «ніякія багатыя людзі сваіх дэпутатаў не прасунуць у беларускі парламент». Перамогу Канапацкай, якая артыкулюе неаліберальны падыход, можна лічыць часовым кампрамісам паміж страхам улады перад каапераццыяй з бізнесам і неабходнасцю заручыцца яго падтрымкай. Несумненна, што і самой Канапацкай прыйдзецца ўдзельнічаць у гэтым кампрамісе.

**«Открытая левая» (Расія)**

Ва Украіне шмат казалі пра вынас расійскага сцяга сябрам беларускай дэлегацыі на Паралімпійскіх гульнях. Але абышлі ўвагай іншы факт — новыя маштабныя вучэнні. Займальным выглядае сцэнар вучэнняў — супрацьстаянне гібрыднай агрэсіі. Вам нічога не нагадвае гэты сцэнар? Вучэнні, якія прайшлі ў Беларусі, можна смела называць «Славянск–2016». Тым больш што і месца дзеяння для вучэнняў было характэрным — палігон каля горада Лепель у Віцебскай вобласці. Той самай вобласці, дзе дзейнічала (і дзейнічае) досыць шмат прарасійскіх арганізацый. У асноўным пад крылом РПЦ ці «нацыянальнага зямляцтва», па сутнасці — сепаратысцкіх арганізацый. (...) Лукашэнка рыхтуецца да нападу Расіі, які, мяркуючы па яго дзеяннях у апошнія два гады, ён лічыць цалкам верагодным.

**ТСН (Украіна)**

На радыкальныя захады Лукашэнка пайсці не рызыкне, але працягне лаяцца з Масквой. Не выпадковы і выбар суразмоўцы. Рапота кіруе апаратам Саюзнай дзяржавы, і ў гэтай якасці, вядома, мае пастаянны доступ да першых асоб Расіі. Яму выразна далі зразумець, што калі рашэнне балючых для Беларусі пытанняў не зрушыцца з месца — чакайце дробных паскудстваў.

**«Капітал» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Фарпост Кітая

Пакуль Масква і Вашынгтон сварыліся за Грузію, краіна, падаецца, трапіла пад кантроль Пекіна. На мінулым тыдні Грузія і Кітай дасягнулі сенсацыйнай дамоўленасці пра бязмытны доступ грузінскай прадукцыі на кітайскі рынак, сярод іншага гэта тычыцца мінеральнай вады і віна. Такім чынам, Тбілісі і Пекін змаглі завяршыць перамовы пра зону свабоднага гандлю (ЗСГ) усяго за сем месяцаў, у той час як многім іншым краінам, каб дасягнуць падобнага пагаднення з КНР, было патрэбна ад пяці да дзесяці гадоў. Увогуле, у свеце практычна няма дзяржаў (за выключэннем бліжэйшых суседзяў КНР), якія атрымалі права бяспошлінна ўвозіць у Кітай такі высокі працэнт наменклатуры сваёй прадукцыі — 95%. Чаму кіраўніцтва КНР усталёўвае сур'ёзныя прэферэнцыі для далёкай краіны, якая знаходзіцца на перыферыі «кітайскага свету»? На думку аналітыкаў, прычына ў тым, што «межы» кітайскага свету ўсё больш пашыраюцца, што надзіўна з улікам пертварэння Кітая ў другую эканоміку на планеце. Грузія разглядаецца кітайскімі камуністамі як важны фарпост сваёй геапалітычнай экспансіі ў каўказскім рэгіёне.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Таямніца смерці «пірата»

Уся Германія намагаецца разабрацца ў прычынах смерці Клаўса Брунера, былога дэпутата берлінскага Сената ад партыі «піратаў». 26 верасня, на наступны дзень пасля выбараў у Сенат, на якіх «піраты» прайгралі, пад Берлінам быў знойдзены труп 44-гадовага Клаўса. Хутчэй за ўсё, смерць неяк звязана з 29-гадовым мужчынам, цела якога знойдзена побач з экс-дэпутатам. Вядома, што з гэтым мужчынам Клаўс Брунер (ён быў геем), пазнаёміўся праз інтэрнэт і пасля забіў. Пра забойства ён сам паведаміў у сваім апошнім лісце, што напісаў перад тым, як здзейсніць суіцыд. Быццам, усё зразумела, аднак бракуе аднагомоманту — нашто Клаўс Брунер забіў таго хлопца? Самае простае тлумачэнне — забойства адбылося выпадкова, бо ніякіх матываў не было. Між тым, калегі Клаўса па фракцыі «піратаў» сведчаць, што той меў праблемы з псіхікай. На іх думку, правал партыі на выбарах мог справакаваць Клаўса на нейкія неадэкватныя ўчынкі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КУБА. Не будзем вучыцца ў ЗША!

У мінулую пятніцу вучні шматлікіх школ і навучэнцы універсітэтаў Гаваны выйшлі на вуліцы для незвычайнага пратэсту. Удзельнікі акцыі публічна паабяцалі, што не будуць удзельнічаць у адукацыйнай праграме World Learning, якую фінансуе амерыканскі ўрад. Гаворка ідзе пра, падавалася, звычайную праграму абмену школьнікамі, якую пашырылі на Кубу пасля нядаўняга візіту на востраў Барака Абамы. Такім чынам, маладыя кубінцы 16–18 гадоў, якія пройдуць конкурс, змогуць бясплатна наведаць Штаты, дзе пазнаёміцца з амерыканскай сістэмай адукацыі і пройдуць курсы лідарства. Хаця кубінскія ўлады пагадзіліся на падобную праграму, афіцыёз пабачыў тут спробы падрыхтоўкі кубінскага Майдану. Як піша друкаваны орган кубінскага камсамола «Juventud Rebelde», праграма World Learning прыдуманая для таго, каб паспрабаваць зрабіць з кубінскай моладзі апанентаў рэжыму Кастра. Пра гэта нібыта сведчыць сувязь дырэкцыя World Learning з фондамі, блізкімі да рэспубліканцаў. Так гэта ці не, сказаць цяжка, аднак абяцанне не вучыцца ў ЗША ўжо далі каля 400 кубінскіх юнакоў і дзяўчат.

**Паводле кубінскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. Дух Карымава сярод нас


Шаўкат Мірзіёеў

Як вядома, пасля смерці ўзбекскага прэзідэнта ў краіне з пункту гледжання канстытуцыйнага права адбыўся сапраўдны пераварот. Насуперак Асноўнаму закону, які патрабуе, каб функцыі прэзідэнта часова выконваў старшыня сенату, часовым прэзідэнтам абвешчаны прэм'ер Шаўкат Мірзіёеў. Натуральна, афіцыйным медыя трэба неяк тлумачыць публіцы гэтую недарэчнасць. Таму на гэты конт прыдуманы цэлы набор аргументаў. Часовае прэзідэнцтва Мерзіёева апраўдваюць добрым веданнем законаў, удзелам у будаўніцтве ўзбекскай незалежнасці, «звязкай з народам» — тым, што ён прыйшоў на высокую пасаду з самых нізоў... Аднак далей за ўсіх пайшоў нехта Акмаль Саідаў, адзін з дэпутатаў парламента. На яго думку, выбарам на карысць прэм'ера задаволены дух Іслама Карымава. Па словах Саідава, дух Карымава бачыць усё, што адбываецца, і, натуральна, задаволены, што яго справу будзе працягваць менавіта Мірзіёеў. Трактоўка больш чым арыгінальная, аднак асаблівага здзіўлення сярод узбекаў яна не выклікала.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

# Ці будзе «Другая афрыканская»?

Алег НОВІКАЎ

**На думку спецыялістаў, Дэмакратычная рэспубліка Конга (DRC) — самая вялікая краіна ў Афрыцы, — ідзе да грамадзянскай вайны. Гэта вайна можа быць небяспечнай не толькі для рэгіёну, але і для ўсяго свету.**




Афрыканская прэса сцвярджае, што ўсе цяперашнія глобусы — падробкі, ахвяры змовы картографаў. У свой час тыя былі так уражаныя маштабамі Афрыкі, што вырашылі паменшыць выяву кантынента на мапах і глобусах.

Нашто? Каб у еўрапейцаў, якія адчувалі сябе гаспадарамі свету, не ўзнік комплекс непаўнавартасці. Напрыклад, тэрыторыю Расіі можна «ўціснуць» у межы дзвюх-трох краін Паўднёвай Афрыкі. З іншага боку, такія мегапамеры афрыканскіх краін сведчаць пра маштаб канфлікту, які зараз пагражае рэгіёну.

Ужо нават вядомы тэрмін, калі ўсё выбухне. Гэта 19 снежня 2016 года, калі афіцыйна заканчваецца другая кадэнцыя Джозэфа Кабілы — прэзідэнта Дэмакратычнай Рэспублікі Конга.

У гэты дзень, паводле дзеючай Канстытуцыі, Кабіла, які змяніў на пасадзе прэзідэнта-бацьку пасля яго забойства ў 2001 годзе, павінен пайсці на палітычную пенсію. Аднак, мяркуючы па яго ўчынках, сыходзіць Кабіла не збіраецца. Раней выбары былі прызначаная на 26 лістапада, аднак іх перанеслі. Кабіла тлумачыў гэта тым, што правядзенне выбараў патрабуе папярэдняй рэгістрацыі выбаршчыкаў. Хутка стала вядома, што працэдура рэгістрацыі не закончыцца раней за чэрвень-ліпень наступнага года. Нарэшце, 20 верасня ўрадавыя крыніцы праінфармавалі, што з улікам шматлікіх тэхнічных пытанняў, выбары адбудуцца не раней за лістапад 2018-га.

Навіна імгненна выклікала пратэсты ў сталіцы, ахвярамі якіх сталі офісы прэзідэнцкай Народнай партыі за адраджэнне і развіццё (PPRD). Адказ уладаў быў сіметрычны: у бунтоўныя кварталы ўвялі паліцыю і войскі для знішчэння бюро апазіцыйных партый. Пры гэтым не шкадавалі іх супрацоўнікаў і проста мінакоў. У выніку сутычак толькі ў Кіншасе за два дні былі забітыя каля 44 чалавек.

Хапун у сталіцы, па сутнасці, пахаваў дыялог паміж уладай і апазіцыяй, лідары якой зараз заклікаюць да ўсенароднай мабілізацыі супраць Кабілы. Чым бліжэй 19 снежня, тым больш будзе нарастаць эскалацыя. Некаторыя кажуць, што грамадзянская вайна непазбежная. Беручы пад увагу тое, што DRC — гэта паліфанія народаў і кланаў, якія маюць узброеныя структуры, няма сумневаў, што канфлікт набудзе этнічны характар. А тое, што шматлікія народы жывуць па розныя бакі мяжы дзяржаў, гарантуе пашырэнне яго геаграфіі. Тым больш, працяглы эканамічны крызіс даўно стварыў глебу для масавага незадавалення.

Прасцей кажучы, свету пагражае рымейк так званай «Вялікай афрыканскай вайны» (1998–2002). Гэтая вайна таксама ішла на тэрыторыі Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга. У ёй удзельнічалі больш за дваццаць узброеных груповак, якія прадстаўлялі дзевяць дзяржаў. Да 2008 года ў выніку вайны і яе наступстваў загінула 5,4 мільёна чалавек, — у асноўным ад хвароб і голаду. Такая статыстыка робіць «Вялікую афрыканскую вайну» адной з самых кровапралітных у сусветнай гісторыі, і самым смяротным канфліктам з часоў Другой сусветнай вайны.

Нават калі да маштабаў той вайны не дойдзе, з'яўленне масы ўцекачоў непазбежнае. У адрозненне ад часоў «Вялікай афрыканскай», сёння ў Лівіі няма рэжыму Кадафі, які стрымліваў націск нелегалаў у Еўропу. Акрамя таго, у 1998–2002 Расія не праводзіла глабальнай гульні, а Кітай толькі-толькі пачынаў заходзіць у Афрыку. Незразумела, як Пекін і Масква будуць рэагаваць на разборкі ўнутры краіны, якая лічыцца самай багатай на выкапні на кантыненце.

**Чым бліжэй 19 снежня, тым больш будзе нарастаць эскалацыя. Некаторыя кажуць, што грамадзянская вайна ўжо непазбежная**

Праўда, некаторыя палітолагі спадзяюцца, што Кабіла цвяроза глядзіць на рэчы і абмяжуе свае амбіцыі. Відавочна, што рэжым у Кіншасе не здольны функцыянаваць без знешняй падтрымкі. Нават ролю сілавікоў шмат у чым выконвае корпус блакітных касак ААН. Толькі выключна дзякуючы ім удалося лакалізаваць чарговае паўстанне аднаго з плямёнаў у 2013-м. Акрамя таго, на Захадзе ўзурпацыю ўлады ў Кіншасе не вітаюць. Напрыклад, Жан-Марк Эра, дырэктар французскага МЗС, па слядах беспарадкаў 22 верасня заявіў, што Кабіла з такімі падзеямі рызыкуе нарваацца на міжнародны байкот. Белы дом, у сваю чаргу, паабяцаў увесці персанальныя санкцыі супраць асобаў, якія былі датычныя да пераследу апазіцыі.

На жаль, вопыт сведчыць, што словы заходніх палітыкаў часцяком не супадаюць з іх канкрэтнымі ўчынкамі. Раней Еўропа і Злучаныя Штаты закрылі вочы на татальныя фальсіфікацыі на выбарах у 2011 годзе. Апазіцыю тады супакоілі абяцанкамі не дапусціць падтасовак на наступных выбарах. У дадатак шэраг СМІ пішуць, што Захаду банальна не да Экватарыяльнай Афрыкі. Еўропа загразла ва ўнутраных разборках, а знешняя палітыка ЗША фактычна паралізаваная да прыходу ў Белы дом у студзені наступнага года новага прэзідэнта. Адным словам, Кабіла разумее, што Захаду патрэбны хай і хісткі, аднак усё ж нейкі мір у Афрыцы. Нездарма сам ён любіць казаць: «Або я, або краіна будзе жыць паводле закону джунгляў».

Падаецца, што Захад сапраўды гатовы шукаць кампраміс з Кабілам. Пра гэта ўскосна сведчаць словы Моізе Катумбі, былога губернатара правінцыі Катанга, які лічыцца асноўным альтэрнатыўным прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта. Моізе заклікае прыхільнікаў дамагацца адстаўкі Кабілы мірнымі сродкамі. Гэтую формулу падтрымлівае і Афрыканскі саюз — аналаг нашага СНД. Мірны шлях — гэта гарантыя таго, што Канстытуцыя не ператворыцца ў нейкую паперку, што цалкам пагрузіць краіну ў палітычную анархію.

Аднак кампраміс з Кабілам азначае, што ўрадавы клан захавае свае рэсурсы. Ці задаволіць такая формула вуліцу, вялікае пытанне. Яе лозунг гучыць вельмі бескампрамісна: «Слухай, Кабіла, твой час сышоў!». Нямецкая «Tageszeitung» папярэджвае: «Калі на працягу некалькіх тыдняў не будзе дыялогу з апазіцыяй, палітычная дыскусія цалкам пяройдзе на вуліцу».

# Ці будзе ў Расіі ліберальная апазіцыя?

Алег НОВІКАЎ

**Больш чым сціплыя дасягненні расійскіх лібералаў на думскіх выбарах выклікаюць заканамерныя хваляванні: ці не назіраем мы агонію ліберальнай апазіцыі? Адказаць на гэтае і іншыя пытанні цяперашняй расійскай палітыкі дапамагае маскоўскі журналіст Алег Цепілаў.**




***— Перамога прапуцінскіх партый была прадказальнай, але вынікі парламенцкіх выбараў выклікалі нездаровы ажыятаж. Усяго за апазіцыю галасавала каля 2,5 працэнта — як жартуюць у інтэрнэце, лічба на ўзроўні тлустасці кефіру. Такія асобы, як Прахановаў, намагаюцца разглядаць гэта ў глабальным вымярэнні як канец расійскага лібералізму. Ці сапраўды расійскі лібералізм сканаў?***

— Гэта вельмі смелая заява, калі ўзгадаць, што напярэдадні пратэстаў супраць фальсіфікацый у 2011 годзе лібералізм у Расіі таксама сто разоў паспелі пахаваць. «Балотная» прымусіла хутка перагледзець старыя дыягназ. Не трэба спяшацца з радыкальнымі высновамі, бо сацыяльная база для ліберальных партый у выглядзе празаходняга сярэдняга класу ў краіне відавочна ёсць. Апошні правал выкліканы аб'ектыўнымі фактарамі. Перш за ўсё, апазіцыя не здолела прыстасавацца да новай версіі мадэлі «кіруемая дэмакратыя», якую распрацаваў экс-кіраўнік адміністрацыі Пуціна Вячаслаў Валодзін. Адсюль і крызіс кіраўніцтва, і немагчымасць прапанаваць грамадству мабілізуючую ідэю, стварыць прывабны вобраз альтэрнатыўнай будучыні, знайсці годны адказ на складанае крымскае пытанне...

***— Якія асноўныя параметры мадэлі Валодзіна?***

— Спрэчкі наконт гэтага яшчэ не скончаныя, і, думаю, сам Валодзін шмат дзе эксперыментуе. Паспрабую сфармуляваць гэта так: Валодзін намагаецца стварыць палітычную сістэму з усімі знешнімі адзнакамі дэмакратычнасці, празрыстасці і гэтак далей. Напрыклад, кіраваць ЦВК прызначаецца вядомая праваабаронца Панфілава, чый аўтарытэт не аспрэчваецца. Аднак, калі апазіцыя вырашае ўцягнуцца ў гэтае поле, то на выхадзе ў вачах грамадства яна выглядае як пазасістэмная, маргінальная, несімпатычная групоўка. Такі парадаксальны вынік дасягаецца за кошт медыяманіпуляцый, гульняў на асабістых фанаберыях апазіцыянераў і іншага. З другога боку, назіраецца мадэрнізацыя і амаладжэнне ўрадавых партый, стымуляцыя ўзаемнай канкурэнцыі паміж імі.

***— Рэакцыяй несістэмнай апазіцыі на выбарчую катастрофу стаў пошук вінаватага. У партыі ПАРНАС збіраюцца пазбавіць пасады старшыню Міхаіла Касьянава. Яго крытыкі кажуць, што ён не толькі праваліў кампанію, аднак і дыскрэдытаваў дэмакратаў праз саюз з радыкальнымі нацыяналістамі. Касьянаў усе абвінавачанні абвяргае. Ці не закончацца ўнутраныя разборкі канчатковай маргіналізацыяй ПАРНАС?***

— Парадаксальна, аднак памерці ПАРНАС не дасць Крэмль. Адміністрацыі прэзідэнта патрэбныя карыкатурныя персанажы, якія дэманструюць неадэкватнасць пазасістэмнай апазіцыі. Паколькі ПАРНАС — гэта кааліцыя, нават у выпадку адстаўкі Касьянава апошні зможа кантраляваць адну са структур. Не будзе Касьянава або Мальцава, знойдуць іншага маргінала, якога пачнуць запрашаць на розныя папулярныя шоў і рэкламаваць як вядучага антыпуцініста краны.

***— Ці захаваецца пасля вераснёўскай катастрофы партыя «Яблоко»? Як вядома, яны не набралі тры працэнты, неабходныя для атрымання дзяржаўнай падтрымкі. У краіне такіх памераў, як Расія, цяжка падтрымліваць партыйныя структуры без адпаведных сродкаў.***

— «Яблоко», нягледзячы на правал, нікуды не падзенецца, бо будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2018-га. Ужо вядома, што партыя збіраецца вылучаць Яўлінскага. Такі кандыдат вельмі падабаецца Крамлю, паколькі даўно зразумела, што Яўлінскі — гэта чалавек 1990-х. У гэтым плане не выключаю, што некаторым бізнесменам будзе дадзеная каманда фінансава падтрымаць партыю Яўлінскага.

***— Акрамя Яўлінскага і Касьянава існуе яшчэ адзін апазіцыйны полюс. Гаворка пра каманду Навальнага, якая раней выйшла з ПАРНАС. У выбарах яна не ўдзельнічала, за кошт чаго захавала твар. Ці можа дэмакратычная супольнасць аб'яднацца вакол Аляксея Навальнага, за якога, дарэчы, на выбарах мэра ў Маскве галасавала каля 600 тысяч чалавек?***

— Як вядома, Навальны ў любы момант можа апынуцца за кратамі, паколькі праходзіць па справах за эканамічныя злачынствы. Таму, як толькі ён будзе ўяўляць небяспеку, справам па тых артыкулах дадуць ход. Месца Навальнага ў схеме падрыхтоўкі да прэзідэнцкіх выбараў 2018-га яшчэ не зразумелае. Не выключаю, што яму рыхтуюць лёс Ройзмана. Яўген Ройзман — вядомы на ўсю краіну ўральскі дысідэнт. Як і Навальны, ён доўгі час крытыкаваў уладу, праўда, больш па праблемах наркотыкаў. І нечакана для ўсіх не так даўно Ройзман стаў мэрам Екацярынбургу. Зараз ён па вушы у муніцыпальных праблемах, цалкам забыўся пра агульнанацыянальныя палітычныя тэмы. Кажуць, што Навальнага таксама могуць нечакана абраць мэрам нейкага правінцыйнага гораду, і, такім чынам, прыбяруць яго з вялікай палітыкі.

***— Ці могуць у Расіі паўстаць новыя цэнтры апазіцыі?***

— Сапраўды, ёсць думка, што лібералам трэба забыцца пра старыя партыйныя брэнды і паспрабаваць арыентавацца на кансалідацыю лакальных грамадскіх і сацыяльных пратэстаў. Маўляў, сённяшнія лакальныя пратэсты заўтра могуць здабыць глабальную палітычную сілу, і ў дадатак даць апазіцыі новых свежых лідараў. Але тут на памяць адразу прыходзіць імя Яўгеніі Чырыкавай — лідаркі выступаў супраць знішчэння хімкінскага лесу ў 2011 годзе. У яе асобе ўсе бачылі новага лідара апазіцыі. Аднак у выніку яна эміграравала з Эстонію з-за пагрозы для сваіх дзяцей. У любым выпадку, будучыня сістэмнай і несістэмнай апазіцыі ў Расіі цалкам будзе залежаць ад таго, як стане развівацца палітычная сітуацыя ўнутры самой краіны. А не ад таго, што пра гэта пішуць ура-патрыятычныя публіцысты.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ільхам Аліеў



На рэферэндуме, які адбыўся 25 верасня, азербайджанцы падтрымалі (хто б сумняваўся) прапанову Аліева па змене Канстытуцыі. З 69,7% азербайджанскіх выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні, 90% пагадзіліся з падаўжэннем прэзідэнцкага тэрміну з 5 да 7 гадоў. Таксама прайшла прапанова распускаць парламент і прызначаць сабе двух віцэ-прэзідэнтаў. Нарэшце, у выніку плебісцыту былі адменены ўзроставы цэнз для абрання прэзідэнта Азербайджана.

Шмат для каго незразумела, нашто ўладам гэты рэферэндум. Ільхам Аліеў дастаткова малады, яму ўсяго 54 гады, і пра аперацыю «пераемнік», быццам бы, думаць занадта рана. Апаненты дзеючага прэзідэнта сцвярджаюць, што рэферэндум быў неабходны, каб Аліеў у перспектыве змог перадаць краіну свайму 19-гадоваму сыну Гейдару. Паколькі ніхто не ведае, што будзе заўтра, лепш стварыць прававую базу для прэзідэнцтва Гейдара ўжо сёння.

Таксама незалежныя эксперты схіляюцца да думкі, што з дапамогай рэферэндуму Аліеў спадзяецца сімвалічна ўмацаваць сваю ўладу на перыяд эканамічнага крызісу. Нельга выключаць, што ў цяжкіх эканамічных умовах ёсць шанцы для здрады як дэпутатаў, так і міністраў, на якіх могуць спрабаваць уплываць алігархі і Захад. Менавіта таму яму зараз патрэбны такі інструмент, як права прэзідэнта на роспуск парламента.

### Джэрымі Корбін



Старшыня брытанскіх лейбарыстаў, вядомы сваімі левымі поглядамі, абараніў свае права заставацца лідарам партыі. Нагадаем, што прыкладна паўгода таму правая частка партыі на глебе дэпутацкай фракцыі лейбарыстаў узняла супраць Корбіна бунт. Але ініцыятыва ў выніку правалілася: 24 верасня 60% удзельнікаў пазачарговага партыйнага кангрэсу пацвердзілі паўнамоцтвы Корбіна як старшыні.

Аднак перамога Корбіна хутчэй з'яўляецца шматкроп'ем у дадзенай гісторыі. Усе толькі і кажуць, што вось-вось правая фракцыя паспрабуе стварыць свой праект. Тым больш, што падобныя прэцэдэнты былі: у пачатку 80-х гадоў пасля абрання на пасаду старшыні партыі вельмі левага Майкла Фута, правыя лейбарысты стварылі сваю партыю — сацыял-дэмакратаў. Зараз сітуацыя для расколу яшчэ больш аптымальная, паколькі рэйтынг Корбіна вельмі нізкі — каля 18%.

Праўда, Корбіна можа выратаваць тое, што давер да новага брытанскага прэм'ера Тэрэзы Мэй таксама невысокі. Акрамя таго, у Корбіна ёсць джокер: за апошні час у партыю лейбарыстаў уступілі каля 150 тысяч прыхільнікаў. Гэта, як правіла, маладыя людзі, якія, на думку Джэрэмі, могуць цалкам перафарматаваць партыю ў новы дынамічны праект.

### Марыяна Рахой



Лідара іспанскай кансерватыўнай Народнай Партыі (PP), часовага выканаўцу функцый прэм'ера, можна лічыць пераможцам мясцовых выбараў у Галісіі і ў Краіне Баскаў, якія адбыліся 25 верасня. У Галісіі кансерватары атрымалі абсалютную большасць. У Краіне Баскаў кансерватары набралі няшмат, аднак гэта кампенсуецца правалам сацыялістаў — асноўных апанентаў партыі Рахоя на нацыянальным узроўні.

У Краіне Баскаў партыя сацыялістаў страціла падтрымку 40% сваіх выбаршчыкаў. Гэта найгоршыя вынікі для іх за 40-гадовую гісторыю дэмакратыі ў Іспаніі пасля падзення рэжыму Франка. Яны таксама могуць сведчыць пра нязгоду іспанцаў з жорсткай пазіцыяй лідара сацыялістаў Педра Санчаса, які блакуе кандыдатуру Рахоя на пасаду прэм'ера ў парламенце.

Ці зможа Рахой скарыстацца сітуацыйным крызісам сацыялістаў і зацягнуць іх у свой урад, стане вядома вельмі хутка. У сярэдзіне кастрычніка адбудуцца сходы сацыялістаў, на якіх магчымая адстаўка кіраўніцтва. У такім выпадку Іспанія нарэшце атрымае ўрад, якога не мае амаль год. Інакш у снежні давядзецца праводзіць трэція запар пазатэрміновыя выбары. Аднак Санчасу гэта таксама наўрад ці дапаможа, бо на тых выбарах Рахой будзе відавочным фаварытам.

# Людамір Міхал Рагоўскі, аўтар першага беларускага гімну

Наталля ГАРДЗІЕНКА

**У адным з выпускаў дадаткаў да газеты «Беларускі голас», што выходзіла ў Таронта, былі апублікаваныя надзвычай цікавыя ўрыўкі з успамінаў аўтара першага беларускага нацыянальнага гімну — кампазітара і дырыжора Людаміра Міхала Рагоўскага.**



Звестак пра гэтага беларускага дзеяча няшмат. Нарадзіўся ён 3 кастрычніка 1881 года ў Любліне. Маці Караліна Касакоўская паходзіла з Віленшчыны і добра грала на фартэпіяна, бацька Дамінік Рагоўскі граў на скрыпцы. У малога Людаміра Міхала была нянька-беларуска, пра якую ён згадваў: *«Мая нянька спявала мне калісьці дзівосныя песенькі, паходжанне якіх доўга пазней шукаў па ўсім свеце (...). Былі гэта старыя паганскія песні з беларускіх лясоў»*.

У 1906 годзе хлопец скончыў Варшаўскую кансерваторыю. Пасля ўдасканальваў сваё майстэрства і адукацыю ў Лейпцыгу, Парыжы, Мюнхене, Вене, Рыме. Беларускія біяграмы сведчаць: «У 1909–1911 працаваў дырыжорам у Вільні, дзе, магчыма, пазнаёміўся з Купалам (у 1909 перад выездам Купалы ў Пецярбург). У Віленскім беларускім музычна-драматычным гуртку кіраваў хорам (1910–1911). Ездзіў па Віленшчыне, збіраў і апрацоўваў мелодыі беларускіх народных песень. Склаў «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў», куды ўключыў і ўласныя апрацоўкі беларускіх песень. Аўтар 7 сімфоній, 6 опер, 2 балетаў, у тым ліку балета «Купала», «Беларускай сюіты» для сімфанічнага аркестра (1910) і харавога твора на верш Купалы «А хто там ідзе?» (1910)».

Сам Рагоўскі пісаў пра сваё знаходжанне ў Вільні нашмат эмацыйней і цікавей. «*...Пасля павароту з Рыму, Райхман запрапанаваў мне дырэгэнтуру опэры, але адначасна я атрымаў запросіны арганізаваць школу арганістых у Вільні, што мяне больш прыцягвала, бо я меў вялікую ахвоту зарганізаваць сымфанічную аркестру. Дзякуючы апецы Я. Монтвіла, школа была добра зарганізаванай, і агульнаадукацыйныя выклады мелі засяг 4-х клясаў гімназіі. Мая жонка шчыра працавала ў гэтай школе, выкладаючы па-польску і па-беларуску (падч. рэдакцыяй «Сыгналаў»). Абыход абавязковай расейскай мовы быў верхам мастацтва паліты-кі Мантвіла. (Заўвага рэдакцыі «Сыгналаў»: камп. Рагоўскі прыбыў у Вільню ў 1909 годзе. Да гэтага ж году трэ' аднесьці арганізаваньне мантвілаўскай школы арганістых і выклады ў беларускай мове)»*.

На той час Вільня была не вельмі спрыяльным месцам для творчых асобаў, асабліва беларусаў.

Аднак сярод гараджан была і іншая публіка. Што праўда, гэтую публіку даводзілася выхоўваць, ці нават яе ствараць. *«У Вільні я зарганізаваў мяшаны Беларускі Хор, для якога згармашнізаваў вельмі сыпла сьцяг народных песьняў. Мы далі канцэрт. У праграме было з тузіну песьняў. Публіка прыйшла скэптычная, бо ўважала беларускую песьню за нешта зьбліжанага да выцьця ваўкоў (мова аб паляках і расейцах. — рэд. «Сыг.»)»*. Але ўсё змянялася ў часе канцэрту. *«У цягу дзьвёх гадзінаў ня пушчалі нас з эстрады. Бясконца мусілі паўторваць гэтую сваю бедную праграму. Беларусы падаравалі мне цэлую калекцыю народных музычных інструмэнтаў, ахіненых краскамі. Было гэта вельмі прыгожа. Пакідаючы Вільню, я падараваў тую калекцыю Беларускаму музэю, як і свае мэблі, выкананыя ў народным стылі»*, — пісаў Рагоўскі.

У той час кампазітар вельмі цікавіўся беларускай народнай творчасцю: яго не пакідала зацікаўленасць тымі песнямі, якія яму спявала беларуская нянька. Гэтая яго праца была вельмі плённай. І на гэтай глебе ён пасябраваў з «Нашай Нівай», Іванам Луцкевічам і Аляксандрам Уласавым. Не дзіва, бо менавіта яны дапамагалі кампазітару ў яговых пошуках.

*«...У часе амаль трыгадовага побыту (у Вільні. — заўв. «Сыгналаў»), я запрыязніўся з Луцкевічам і Уласавым — праваднікамі беларускага руху. Асабліва я любіў Івана Луцкевіча — людзіну ідэі і вялікага сэрца. Яны палегчылі мне экскурсыі па Беларусі. Памешчыцкія двары польскія і беларускія вельмі ахвотна запрашалі да сябе, але я ехаў толькі туды, дзе абяцалі мне справадзіць старых людзей, ад якія я мог бы здабыць нешта з старых, забытых народных мэлёдыяў...*

*...З выслуханьнем песьняў, якія мне сьпявалі старыя людзі, ішло мне зусім добра. Я запісаў шмат забытых сяньня песьняў і аддаў цэлы гэты зборнік І. Луцкевічу... Найбольш эмоцыі я меў, слухаючы дыхавічнае і мала выразнае падсьпеўваньне аднаго, больш стагадовага старца, які памятаў добра гады прыгону... Пад уплывам гарэлкі і папяросаў, якімі я яго гасьцяваў, стары*



СЫГНАЛЫ

ЗВАРОТ ВОЛЬНЫХ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ ДА ПІСЬМЕНЬНІКАЎ У САВ. САЮЗЕ

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЕДНАНЬНЕ У БЕЛАСТОКУ

ЛЮДАМІР РАГОЎСКІ І ЯГОНАЯ ПРАЦА НА КАРЫСЬЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Людамір Рагоўскі

З УСПАМІНАЎ КАМПАЗЫТАРА ЛЮДАМІРА РАГОЎСКАГА

ТВОРЧЫ СЕМІНАР ДЛЯ МАЛАДНЯКА

*ажывіўся і раптам пачаў нешта сабе прыпамінаць, якуюсьці вельмі старую песьню. Мучыўся, бядак, моцна... і ані з мейсца! Нарэшце пытаюся, аб чым была тая песьня? Аб Сьветавідзе! Ужо адно тое для мяне было каштоўным, што наагул такая песьня існавала. Аднак усе мае высілкі, каб дзядок яе ўспомніў — былі дарэмныя. А вялікая шкада!»*

Мажліва, праз «Нашу Ніву» да Рагоўскага патрапіў верш Купалы «А хто там ідзе?». Сам кампазітар, дарэчы, тады пра сваё знаёмства з аўтарам тэксту не згадвае: *«Спадабаўся мне верш аднаго з беларускіх паэтаў. І я напісаў да яго музыку. Выйшла на ўзор народных песьняў і сталася нацыянальным гымнам. Казалі мне, што пяюць гэты гымн і цяпер. («А хто там ідзе» — словы Янкі Купалы)»*.

Напісаны Любамірам Міхалам Рагоўскім гімн на верш Купалы «А хто там ідзе?» быў выдадзены друкам. Брашура на 4 старонкі пабачыла свет у Вільні як выданне «Нашай Нівы» (№ 15) у 1910 годзе. На вокладцы яе ўверсе пададзеная назва кірыліцай: «№ 15. Выданьне «Нашае Нівы» №15 / А хто там ідзе? / Словы Янука Купалы / Музыка Л. М. Рогоускаго». Ад сярэдзіны старонкі той самы тэкст паўтараецца лацінкай. У самым нізе — адрэса друкарні: «Вільня, Дварцовая д. №4. Друкарня Марціна Кухты» і «1910 год». На ўнутраных бачынах брашуры пададзеныя ноты і тэкст верша. Распаўсюджваны такім чынам твор Рагоўскага на словы Купалы даволі доўга выкарыстоўваўся як нацыянальны гімн у беларускім асяроддзі.

**Напісаны Любамірам Міхалам Рагоўскім твор на верш Купалы «А хто там ідзе?» быў выдадзены друкам. Брашура пабачыла свет у Вільні як выданне «Нашай Нівы». Твор Рагоўскага даволі доўга выкарыстоўваўся як нацыянальны гімн у беларускім асяроддзі**

У 1910 годзе ў Вільні пачалося цкаванне дзеячаў беларускай культуры і беларускай інтэлігенцыі. Даходзіла нават да анекдатычных рэчаў. *«Іван Луцкевіч быў зьбіральнікам (калякцыянэрам). Спэцыяльна вышукваў і зьбіраў рэчы датычныя Беларусі. Усё, што зарабляў, ішло на закуп новых экспанатаў, або на беларускія мэты. Стала быў сочаны расейскай паліцыяй і зжыўся з гэтым, як з нармальнай рэчай. Адначасна ён быў запісаны як калякцыянэр у якімсь таварыстве, дзе старшынёй быў нехта з Вялікіх Княўзёў. Аднаго разу паліцыя зрабіла труску ў рэдакцыі «Нашай Нівы» і знайшла там цэлую скрыню стараветнае зброі. Зрабілася авантура на цэлую Вільню. Івана ня злоўлена. Быў недзе ўкрыты, але калі даведаўся аб здарэньні, паслаў тэлеграму да Вялікага Князя, што ў яго забралі частку калекцыі... Паліцыя зараз жа атрымала наказ зьвярнуць забраную зброю. Пасьля гэтага Луцкевіч бясьпечна хадзіў па Вільні, баяліся яго зачапіць...»* — узгадваў Рагоўскі ў сваіх успамінах.

Цкаванне беларускай інтэлігенцыі набірала моц. І больш за ўсё гэта было непрыемна, калі яно пераходзіла на побытавы ўзровень. «*...Па-за працай і хоаданьнямі стварыць сымфанічную аркестру, вольная артыстычная брацельня згрупавалася ў г. зв. «Бандзе» (Назоў неахвіцыяльнага мастацкага клюбу. — заўвага рэд. «Сыгналаў»), або ў «Здрайцах». На «сабаты» «Банды» заходзіў часам тоўсты і цынічны журналіст Роўба (віленскі паляк беларускага паходжаньня. — заўв. рэд. «Сыгналаў») вытыкаў нам, што мы чужыя асьмельваемся «дзеяць» у ягонай Вільні. Дзякуючы перадусім гэтым ягоным сталым крытыкам, мы з жонкай пакінулі Вільню, якую палюбілі і якая была дасканалай культурнайростаняй...»*

Людамір Міхал Рагоўскі ў 1911 годзе вымушаны быў з'ехаць з Вільні.

Тым не менш, з Купалам кампазітар знаёмы ўсё ж быў. Можа, не вельмі цесна, і, магчыма, гэтае знаёмства адбылося ўжо пасля напісання гімну. Дакладна вядома, што перад ад'ездам Рагоўскага за мяжу Купала падараваў яму зборнік «Гусляр» з надпісам на польскай мове: «Кампазітару п. Л. М. Рагоўскаму ў знак сапраўднага прызнання прац Яго, прысвечаных развіццю беларускага мастацтва ад шчырага сэрца ахвяруе Янка Купала. Пецярбург, 27/9 III/IV 1911 г.» Гэтая кніга зараз зберагаецца ў бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве.

Пасля ад'езду з Вільні Рагоўскі некаторы час яшчэ вучыўся ў Парыжы, потым працаваў у Варшаве. У часе Першай сусветнай вайны зноў жыў у Францыі, быў добра знаёмы з Ігнацыем Падэрэўскім, Анатолем Франсам, Айседорай Дункан, Полем Кладэлем і іншымі. У 1921 годзе Рагоўскі вярнуўся ў Варшаву, але не быў прыняты мясцовай музычнай грамадой. Ён быў праціўнікам «еўрапеізацыі» польскай музыкі, лічыў, што трэба абапірацца на народныя славянскія матывы. У той жа час з'явіліся сур'ёзныя праблемы са здароўем. Паводле розных сведчанняў, урад БССР на хадайніцтвы Язэпа Дылы, памятаючы ўнёсак Рагоўскага ў беларускую культуру, выдзеліў яму матэрыяльную дапамогу на лячэнне.

З 1926 года Рагоўскі жыў у Дуброўніку (Югаславія). Жыў досыць замкнёна. Праўда, у 1935 і 1938 гадах яшчэ выбіраўся ў Варшаву, і нават падчас другога візіту атрымаў узнагароду ад Міністэрства веравызнанняў і грамадскай асветы ды невялікую пенсію, але ваенныя падзеі не дазволілі яе атрымоўваць. У выніку мясцовыя ўлады Дуброўніка далі кампазітару бясплатнае жытло ў кляштары Св. Якуба і невялікае ўтрыманне. Тут ён займаўся творчасцю музычнай і публіцыстычнай, а таксама пісаў успаміны.

Памёр Людамір Міхал Рагоўскі 14 сакавіка 1954 года. Пахаваны быў за кошт ураду Дуброўніка. *«За труной нябошчыка ішлі гушчы народу і дэлегацыі славенскіх (харвацкіх, С. Хмара памыляецца. — Н.Г.) арганізацыяў, кампазытары, артысты, музыкі, каб аддаць апошні паклон таму, хто прысьвяціў творчасьць апошніх сваіх год іхняму народу і культуры»*.

Тэкст пісаных ім успамінаў пад назвай «Мой кляштар» застаецца неапублікаваным і захоўваецца ў гарадскім архіве Дуброўніка. Тамсама, верагодна, захоўваюцца і кароткія варыянты ўспамінаў. Невядома, якім чынам даведаўся пра тыя тэксты Рагоўскага выдавец тарантаўскага «Беларускага голасу» Сяргей Хмара. Наўрад ці дзеячы былі знаёмыя асабіста. Магчыма, тарантаўскі беларус-журналіст даведаўся пра смерць Рагоўскага і ягоныя ўспаміны ад кагосьці са сваіх югаслаўскіх калегаў па створанай ім жа Асацыяцыі этнічных журналістаў Канады. Аднак якім чынам з сацыялістычнай Югаславіі ўдалося атрымаць тэкст успамінаў для перакладу, застаецца невядомым.

# Палессе вачыма Аркадзя Смоліча

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Чым бліжэй знаёмішся з постаццю Аркадзя Смоліча, тым лепш бачны маштаб асобы. 29 верасня споўнілася 125 гадоў з дня яго нараджэння. Знакаміты беларускі грамадска-палітычны дзеяч і навукоўца, адзін са стваральнікаў Беларускай народнай рэспублікі і Беларускай акадэміі навук за сваё не надта доўгае жыццё паспеў так шмат і адразу ў стольких накірунках, што дзіву даешся.**

У зборах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваецца некалькі соцень прадметаў, звязаных з Аркадзем Смолічам і яго сям’ёй. Музей Багдановіча захоўвае памяць пра Смоліча, бо паэт і географ сябравалі. Пералічваць усё не мае сэнсу. Нагадаю толькі, што з некаторымі матэрыяламі я ўжо знаёміў чытачоў «Новага часу» (№25 за 2015 год).

Зараз прапаную ўрыўкі з «Дзённіка экспедыцыі для доследу палескае гаспадаркі», якая праходзіла летам 1927 года. Дзённік — гэта рукапіс аб’ёмам у 68 аркушаў вялікага фармату ў дробную клетку, спісаных дробным почыркам. Да рукапісу далучаны 54 невялічкія фотаздымкі (памерам прыкладна 8х11 см). На жаль, захаваліся не ўсе фотаздымкі, ды і ў рукапісе не ўсе аркушы ацалелі.

Дзённік з’яўляецца надзвычайна цікавай крыніцай па паўсядзённым жыцці і побыце сялян Мазырскага Палесся на стане на 1927 год. Шмат у чым ён падобны на этнаграфічныя апісанні, але Аркадзь Смоліч, натуральна, значна больш увагі надзяляе гаспадарцы (эканоміці) — асноўнай тэме экспедыцыі.

Экспедыцыю праводзіў аддзел сельска-гаспадарчай эканоміі і аграрнай палітыкі Беларускага навукова-даследчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі. Інстытутам кіраваў Гаўрыла Гарэцкі, а аддзелам — Аркадзь Смоліч. Як пісаў Смоліч у кнізе «Першы год працы Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі», супрацоўнікі аддзела *«зрабілі маршрут на конях і вадою па Мазыршчыне працягам каля 400 клм. і дэталёва апісалі гаспадарку ў сямі мясцовасцях, найбольш характэрных для падрайёнаў, на якія распадаецца Мазыршчына»*. Апрача Аркадзя Смоліча, у экспедыцыі ўдзельнічалі Аўдакім Ярашчук і Мікіта Лайкоў.

Дык накіруемся ж разам з беларускімі спецыялістамі ад эканамічнай геаграфіі ў Мазыр. Нататак непасрэдна пра Мазыр у дзённіку няма, але ёсць фотаздымкі, знятыя з Прыпяці. У прыватнасці, вельмі каларытны здымак прыстані і навакольнай часткі гораду.

Ад Мазыра экспедыцыя накіравалася ў вёску Бібікі, якая ляжыць у васьмі вёрстах на паўднёвы ўсход ад гораду. Запіс пад назвай «Вёска Бібікі» датаваны 20 ліпеня: «*Рэльеф — узгоркі. Ёсьць і равы на полі — у бок Нароўлі 7 равоў, пазарасталі дубняком, вольхай, асінай, грабам, арэшнікам*». Да дзённіка экспедыцыі прыкладзены вельмі маляўнічыя здымкі бібікаўскіх яроў. У вёсцы былі цяжкасці з сенам: «*Сенажаці мала. [...] Сенажаці заўсёды арандуюць у Нараўлянскім раёне і ў Касьцюковічах (вёрст 20 пад Скрыгалаў, над Прыпяцьцю). [...] Цана за пуд добрага сена даходзіць да 50–60 к. Гатовае сена купляюць рэдка, пераважна вясною*».

Далей географы паехалі ў мястэчка Славечна на мяжы з Украінай (згодна з сучасным адміністрацыйным падзелам, гэта Ельскі раён), а пасля на захад, у вёску Стадолічы. Смоліч натуе: «*У м. Славечна — хмызьнякі. Насяленьне нявыразнае нацыянальнасьці. [...] Пераехаўшы пешкі ручай уяжжаем у лес — папалам дуб з хвояй*».

У Стадолічах (Лельчыцкі раён) экспедыцыя затрымліваецца, каб падрабязней вывучыць мясцовую гаспадарку. Як і ў іншых месцах, Смоліч апісвае якасць дарог. Развіццё шляхоў зносін надзвычай важна для развіцця гаспадаркі, бо дае доступ да рынкаў: «*С. Стадолічы — да Мазыру 75 в., да Лельчыц звычайна 15 в., а вясной і ўвосень едуць на Буйнавічы — 35 в., або чаўнамі. Так бывае месяцы па 1½ — усяго 3 месяцы ў год. Зімою — 12 вёрст. Да ст. Шышкі (ст. Славечна так тут называюць) — 50 вёрст зімою і ўлетку. Бліжэйшыя вёскі — Забродзьдзе 3 в. (зімою 2 в.), Альхова — 7 в., Ручное — 9 в.*».

Аркадзя Смоліча паслядоўна цікавіў нацыянальны склад насельніцтва. Гэта не выпадкова — ён быў адным з тых, хто рыхтаваў узбуйненні тэрыторыі БССР 1924 і 1926 гадоў, яму хацелася пераканацца на мясцовасці, што праведзеныя ў Мінску межы паміж Беларуссю і Украінай былі слушнымі: «*Насяленьня ўсяго ў Стадолічах 1409 чал., у с/с 1967. У с. Стадолічах граматных 229 (добра граматных у т. л. 181), вучняў 80. У в. Забродзьдзі ў школе 20 чал. У Забродзьдзі каталікі. Але школы і там і там беларускія. Польскай не хацелі. А вось Восаўцы — хацелі польскае школы. Па беларуску усе чытаюць. [...] Нацыянальнасьць беларусы, яўрэяў ёсьць 4 хаты, грузін 1 (шавец), палякаў — ? У Забродзьдзі шляхта каталіцкая. З украінцаў ёсьць прымакі ў в. Ручном*».

Ледзь не ў кожнай вёсцы Смоліч збіраў звесткі пра ход хутарызацыі. Як адзін з вядучых спецыялістаў у БССР па сельскай гаспадарцы, Смоліч прыклаў руку да распрацоўкі і папулярызацыі палітыкі перасялення сялян на хутары.







Хутарызацыя праводзілася Наркамземам БССР у 1920-я і была спынена ў сувязі з падрыхтоўкай да калектывізацыі. «*Хат цяпер у вёсцы з хутарамі 195, у т. л. хутароў 54. За апошні год прыбавілася 4 хаты. У 1919 годзе стварылася тут 30 новых гаспадарак. У вёсцы новых хат не будуюць, а толькі на хутарох. Да вайны хутароў было 7–8*».

25 ліпеня экспедыцыя выправілася са Стадолічаў у Петрыкаў, каб адтуль па Прыпяці дабрацца да вёскі Ляскавічы Петрыкаўскага раёна. Смоліч радаваўся поспехам беларусізацыі і распаўсюду асветы: «*Школка беларуская з 1923 году. Дзеці цяпер (па беларуску) лепш вучацца. Школа існуе з даўніх часоў. Была царкоўна-прыходзкая, цяпер 2х камплектная. Неграматных у сяле мала — і то найбольш старыя (па 50–60 гадоў). Цяпер усе вучаць дзяцей. Месца хватае. У Петрыкаўскай сямігодцы цяпер вучацца 5–6 чалавек. Перад вайною 3 чал. скончылі гарадзкое вуч. У настаўнікі выйшла 2 чал. У вышэйшых школах ніхто не вучыўся*».

Географ звяртае ўвагу і на эміграцыю, і на колькасць інвалідаў, і на тое, як людзі перажылі часы вайны і рэвалюцыі: «*Выселілася ў Сыбір 4 сям’і, з іх адна вярнулася. У Амэрыку выехалі 2 яўрэйскія сям’і. Калекі — 1 інвалід вайны (бяз ног), 1 у лесе скалечыўся, 1 нямы, 1 аднавокі. Азяродаў у Ляскавічах няма. Вёска гэты год ужо 3 разы гарэла. У 1919–1921 гадох сядзелі бяз хлеба, мянялі адзежу на хлеб у Случчыне. У Баклані і Брынёве — паравыя млыны. Ярмарка — на Ільлю ў Петрыкове*».

Аркадзь Смоліч спадзяецца пачуць ад сялян пра ўкараненне перадавых спосабаў весці гаспадарку, але марна: «*У плене было многа гаспадарой. Расказваюць свае ўражаньні аб гаспадарцы, але на практыцы не ўводзяць навін*». *Навіны не ўводзяць таксама, бо «ўплыву агранома — няма. Аграном раз на два гады бывае»*.

Перажывае аўтар дзённіка за тое, што сяляне выпісваюць маскоўскія выданні, а арыентаваны на сялян мінскі часопіс «Плуг», у распрацоўцы канцэпцыі якога прымаў удзел сам Смоліч, вялікай папулярнасцю не карыстаецца: «*Газэты выпісвае чалавек 18, найбольш "Крестьянскую газету", "Батрак". Падпіску зьбірае ізбач. Іншыя газэты і "Плуг" ёсьць у хаце чытальні*».

Захаваўся зроблены ў Ляскавічах здымак выпасу жывёлы: «*Скаціна найбольш пасецца на полі. [...] Цяляты ссуць матку цэлае лета. Цялят ⅓ прадаюць. [...] Лечыць скаціну мясцовы вэтэрынарны фэльчар. [...] Гадоў 40 назад дзяржалі украінскія валы. Іх прыводзілі на ярмаркі ў Петрыкаве. Але стала цесна з выпасам і кормам і зьвялі*».

Вярнуўшыся Прыпяццю ў Петрыкаў, экспедыцыя рушыць па зямлі на поўнач, да вёскі Навасёлкі (сёння — Петрыкаўскі раён). Смоліч фіксуе мясцовае вымаўленне: «*Наво́селкі (або Кузьмічы)*». Вёска разбурае прывычны стэрэатып Палесся як вельмі архаічнага і мала закранутага «цывілізацыяй» рэгіёну: «*Па дарозе вопратка скрозь крамная. Пачалі ясі насіць, як пабудавалі завод у Навасёлках. [...] За 2 вярсты завод-пільня. Адкрыты ён у 1908 годзе. Цяпер рабочых 37 чал. Аднаўлены працы былі ў 1925 годзе, але згарэў і летась увосень ізноў аднавілі. Рабочыя пэўны ўдзел у сходах прыймаюць. Для сялян завод дае заробкі — возяць на яго сырэц. Матар'ялы возяць іншыя вёскі*».

Як і ў некаторых іншых вёсках, Смоліч звяртае ўвагу на асаблівасці мясцовых будаўнічых традыцый Навасёлак: «*Хаты. Хат ёсьць каля 300, з саламянай страхой толькі 1, рэшта крыты гонтамі і стружкай (найбольш), дранкаю і дошкамі менш. Хлявы крыты саломай, ёсьць і трэскай. Амшоных хляvоў ёсьць 2–3. Салома з стрэх часта зьдзерта ў бяскорміцу. Надта многа азяродаў*». Захаваўся здымак аднаго з двароў у Навасёлках.

Далей экспедыцыя падаецца на ўсход. І вось у вёсцы Цідаў (цяпер — Калінкавіцкі раён) акурат натрапляе на палескую архаіку: «*Хаты ў Цідаве досьць бедныя, ёсьць чыста палескага тыпу з нізкімі шчытамі, пакрытыя гнілымі дошкамі. Усе кабеты носяць андаракі. Вельмі пекныя паясы, але дорага хочуць за іх. Кашулі з натыканымі рукавамі, прынеслі сьвіту белую з вусамі. Вопратка тут запраўды ящчэ жывe. У Казловічах тая самая зьява. [...] Пяшчанымі пералескамі пад'яжджаем к Даманавічам. Спаткалі дзьвёх кабет у поўным строю з гарсэцікам і андараком. Яны ехалі, відаць, да дохтара*». З Цідава пазадзіць некалькі фотаздымкаў мясцовых жыхароў у традыцыйных строях.

Экспедыцыя рушыла далей — у Мазыр (зноў), у Нароўлю.

Дзённік экспедыцыі, які ў гады сталінскіх рэпрэсій не пабаялася захаваць удава географа Алеся Смоліч, распавядае нам пра палескую вёску напярэдадні «вялікага пералому». Спадзяюся, што ён у сваёй паўнаце яшчэ знойдзе свайго чытача — гісторыка, географа ці эканаміста.

Матэрыялы экспедыцыі былі апрацаваныя і рыхтаваліся да друку асобным томам «Нарысы сельскай гаспадаркі Мазырскага Палесься», у якім пяру Аркадзя Смоліча мусіў належаць артыкул «Нарысы сыстэмы рольніцтва на Палесьсі». Але, як выглядае, кніга свет не пабачыла. Прынамсі, яе няма ані ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі, ані ў бібліяграфічным паказчыку «Летапіс друку Беларусі». Добра, што ацалелі хаця б чарнавыя матэрыялы.

*З некаторымі фотаздымкамі, прыкладзенымі да дзённіка, можна будзе пазнаёміцца беспасярэдне на выставе «Аркадзь Смоліч. Жыццё за Беларусь...», якая адчыніцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча 4 кастрычніка.*

# Незвычайны звычайны лекар

Генадзь ШЭРШАНЬ

**Выдатны лекар, альпініст і проста шчыры чалавек Эдуард Ліпень сёлета адсвяткаваў сваё 80-годдзе.**



### Ад студэнта да...

У студэнцкія гады наш герой быў свойскім, камунікабельным і ветлівым хлопцам, «земляком», здольным на ўсялякія жарты і прыколы. Але ці мала ў гэтыя гады даводзіцца сустракаць усялякіх жартаўнікоў і арыгіналаў? Тым не менш Эдзя запомніўся якраз гэтым. Ягонае захапленне пад канец вучобы альпінізмам усе прынялі за чарговае дзівацтва — і толькі.

Калі мы сустрэліся зноў, гады праз чатыры, Эдзя ўжо быў паважаным Эдуардам Бярнардавічам — ардынатарам Дзіцячага хірургічнага цэнтра і не менш вядомым альпіністам не толькі ў Беларусі. Дзякуючы ягонаму спрыянню і падтрымцы і я зрабіўся заваёўнікам вяршынь. Аднак, калі пасля набыцця значка «Альпініст СССР» мае намаганні ў гэтым напрамку былі вычарпаныя, у Эдуарда яны толькі ўзмацніліся. Кожны год ён узнімаўся на новыя вышэйшыя вяршыні і ўсё больш складанымі маршрутамі.

### Як вынайсці лекі?

У 1982 годзе ў Кіргізіі група беларускіх альпіністаў спрабавала ўзяць самую высокую вяршыню Цянь-Шаня — пік Перамогі вышынёй 7439 метраў. Яны прайшлі і больш-менш паспяхова дасягнулі вяршыні. Потым пачаўся спуск. А калі пакарыцелі піка спусціліся прыкладна на 200 метраў (да 7200 метраў), раптоўна ўзнялася завіруха, тэмпература паветра ўпала да 40 градусаў марозу, амаль бесперапынна дзьмуў вецер хуткасцю да 50 метраў на секунду. Давялося тэрмінова ставіць палаткі, каб перачакаць непагадзь. Прайшлі суткі, другія, трэція... А завіруха працягвалася з ранейшым імпэтам. У заблакаваных альпіністаў ужо заканчваліся прадукты. І, што самае горшае, у аднаго за другім з пакарыцеляў вяршыні пачалі з'яўляцца і ўзмацняцца прыкметы абмаражэнняў.

Лекар групы Эдуард Ліпень (а без лекараў не абыходзіцца ні адна група альпіністаў), безумоўна, ведаў, што ва ўсіх падручніках раяць расціраць абмарожаныя часткі цела. Але са свайго досведу і з досведу калег ён ужо высветліў, што так пацярпеламу прыносіцца не столькі карысці, колькі шкоды: ужо пашкоджаныя марозам тканкі дадаткова драпаюцца расціраннямі. Ліпень вырашыў засцерагчы ўжо абмарожаныя месцы ад вонкавых уздзеянняў і адначасова ўсімі магчымымі спосабамі і сродкамі падтрымліваць цяпло ва ўсім целе пацярпелых. У яго аптэчцы былі таблеткі трэнтала, якія прызначаюцца хворым з парушаным кровазваротам у аддаленых частках цела для яго ўзнаўлення. Абмаражэнні — гэта такія ж парушэнні. Лекар скарыстаў гэтую відавочную магчымасць трэнталу, каб дадаткова палепшыць стан пацярпелых, хаця да гэтага часу трэнтал абмарожаным яшчэ не прызначаўся. Тое была вымушаная, рызыкоўная, але апраўданая мера.

Завіруха бесперапынна цягнулася больш за тыдзень. Увесь гэты час альпіністы хаваліся ў палатках і намагаліся прадухіліць пагрозу абмаражэння. Потым ім давялося некалькі дзён спускацца з гары ў даліну.

Без абмаражэнняў у большасці пакарыцеляў піка не абышлося. У тым ліку — і ў самога лекара. Аднак у тых жорсткіх абставінах, каб не дзеянні Ліпеня, наступствы былі б значна горшыя. Да такога ж меркавання прыйшлі спачатку кіргізскія лекары, а потым ленінградскія і мінская спецыялісты, якім пакарыцелям піку Перамогі давялося даваць справаздачу.

Пазней у медыцынскім часопісе з'явіўся сціплы артыкул, у якім аналізаваліся ўмовы і вынікі таго ўзыходжання. Новы спосаб аказання дапамогі абмарожаным атрымаў аўтарытэтную падтрымку і паступова зацвердзіўся сярод лекараў, а трэнтал займеў дадатковыя паказанні: «... і пры абмаражэннях».

### «Снежны барс»

Праз тры гады ў актавую залу Мінскага медыцынскага інстытута, дзе збіраліся на традыцыйную сустрэчу выпускнікі 1960 года, Эдуард Ліпень увайшоў прыкметна кульгаючы. Але на лацкане ягонага пінжака віднеўся прыгожы срэбраны значак заваёўніка ўсіх вяршынь (сямітысячнікаў) СССР, які да таго ж сведчыў, што яго ўладальнік носіць ганаровае альпінісцкае званне «снежны барс».

Зрэшты, у альпінісцкім жыцці лекару Ліпеню даводзілася сутыкацца і не з такімі выпадкамі. У 1968 годзе, на Каўказе, у час узыходжання на гару на галаву аднаму з альпіністаў зваліўся камень. Хлопец адразу страціў прытомнасць і паміраў. Толькі апоўначы Ліпеню ўдалося абследаваць пацярпелага і выявіць выразныя прыкметы масіўнага сціскання паўшар'я галоўнага мозгу. Пацярпеламу заставалася жыць гадзіну-дзве, а можа і хвіліны. Тут жа Ліпень зрабіў яму трэпанацыю чэрапа. Сцізорыкам і альпінісцкімі крукамі ён прабіў дзірку ў галаве альпініста. Праз тую дзірку вылілася амаль два кубкі крыві і... хлопец апрытомнеў.

Гэты ўчынак лекара ўжо тады вызначаў і высвятляў сутнасць і крэда самога Эдуарда Бярнардавіча: усюды і заўсёды ў самых цяжкіх і неверагодных умовах шукаць і знаходзіць выйсце з самых безнадзейных абставін.

### І настаўнік

Пасля абавязковай трохгадовай «адпрацоўкі» ў Віцебскай вобласці Ліпень вярнуўся ў Мінск. Паступіў і закончыў клінічную ардынатуру па анестэзіялогіі. Пачаў працаваць анестэзіёлагам у групе штучнага кровазвароту ў Цэнтры дзіцячай хірургіі і пры магчымасці хадзіў у горы.

З 1974 года, калі ён стаў супрацоўнікам Мінскага медынстытута (пазней універсітэта) на кафедры анестэзіялогіі (спачатку працаваў выкладчыкам, потым — асістэнтам, і нарэшце — дацэнтам), у жыцці Ліпеня выпрацаваўся пэўны стэрэатып: увесь перыяд навучання (восень, зіму і вясну) ён праводзіў заняткі са студэнтамі і слухачамі, чытаў лекцыі і па-ранейшаму актыўна ўдзельнічаў у складаных кардыёхірургічных аперацыях, а летам на пару месяцаў выпраўляўся ў горы.

З таго часу Эдуард Бярнардавіч не раз пабываў не толькі на Каўказе, але і на Камчатцы, у Альпах, на Паміры і ў Тыбеце. Там, у гарах, ён трэніраваўся, удасканальваў сваю тэхніку ўзыходжанняў і заваёўваў новыя вяршыні, у тым ліку васьмітысячнікі, нават двойчы — Эверэст, самую высокую ва ўсім свеце гару. Адначасова лячыў «сваіх» альпіністаў розных нацыянальнасцяў, і «тутэйшых» — хворых жыхароў мясцін, дзе ў той час знаходзіўся. Там, на ўзвышшах Тыбета, у 1992 годзе выканаў норму майстра міжнароднага класа па альпінізму.

Безумоўна, сам Эдуард Бярнардавіч ганарыцца сваімі поспехамі і дасягненнямі ў медыцыне і альпінізме. Але, трэба думаць, шчыра называе сваю працу лекара-анестэзіёлага звычайнай. У сваіх учынках і дзеяннях на вяршынях свету, у бальнічных палатах і аперацыйных не бачыць нічога гераічнага. Альпінізм успрымае як захапленне, якое не толькі робіць больш разнастайным і цікавым асабістае жыццё, але і, у дадатак, спрыяе ягонай галоўнай дзейнасці лекара.

Паказальна, што звычайна ў гарах ён сустракаў і святкаваў свой чарговы дзень нараджэння. Нават 70-годдзе Эдуард Бярнардавіч адзначыў узыходжаннем на Эльбрус разам з сынам. І так з года ў год да апошняга часу.

А сваё 80-годдзе ў ліпені дацэнт медыцынскага ўніверсітэта, майстар спорту міжнароднага класа і заслужаны трэнер Беларусі па альпінізме Эдуард Ліпень сустрэў і адсвяткаваў у цёплым асяроддзі шматлікіх родных і сваякоў, якія вельмі ім ганарацца.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 945

Падпісана да друку 30.09.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.